6 лістапада 2014 | № 42 (411)

# Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**Чаго няма ў беларускай каўбасе?**

стар. 4



3 **ГРОШЫ НА ВЕЦЕР**

Грошы на будоўлю новай лечкамісіі будуць выдаткаваныя з бюджэту. Але адкуль яны ў бюджэце знойдуцца?

11 **НОВЫ ЎРАД ШВЕЦЫІ ЎЗДЫМЕ ПАДАТКІ**

Чаго чакаць ад новага ўрада Швецыі? Пра гэта Алег Новікаў размаўляе з былым лідарам шведскай урадавай партыі «Зялёныя», дырэктаркай аналітычнага агенцтва «Cogito» Лотай Хёндстарм

14 **КАТЫНЬ ЯК ПОМСТА ЗА ФІНЛЯНДЫЮ**

Дасюль мала хто ведае, што французскі ўрад па дамове з палякамі планаваў адправіць на дапамогу фінам добра падрыхтаваную брыгаду Войска Польскага



# Мова як зброя

## «Размаўляйце цішэй па-руску, а то Пуцін дашле танкі вас ратаваць!»



Сяргей ПУЛЬША

Апошнім часам як грамадства, так і чыноўніцтва заклапацілася праблемай існавання і ўжытку беларускай мовы.

З'езд Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, які прайшоў у Мінску 2 лістапада, наведала галоўны спецыяліст Упраўлення ўстаноў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры Людміла Лебедзь. Яна не пабачыла ніякіх праблемаў з ужываннем беларускай мовы. «Дакументы, якія прыходзяць да нас па-беларуску, атрымліваюць беларускамоўны адказ. Развіваецца беларускамоўны тэатр і наша музычная культура. Нашы паэты-песеннікі ствараюць добрыя беларускамоўныя песні, якія з задавальненнем выконваюць і прафесійныя артысты, і аматары. Мы існуем у беларускім асяроддзі», — заявіла Людміла Лебедзь Радыё «Свабода».

Яна ўпэўненая, што моўная праблема ў Беларусі — гэта праблема сямейнага выхавання, а суіснаванне дзвюх моваў — рускай і беларускай — не праблема. На заўвагу аб тым, што асяроддзе не спрыяе пераходу на беларускую мову, чыноўніца заявіла, што асабіста ў яе няма ніякіх перашкод гаварыць на той мове, на якой хочацца, у тым ліку на беларускай.

Калісьці я таксама адказваў на пытанне НІСЭПД: «Ці хвалюе вас стан беларускай мовы?». Спачатку я намыліўся быў адказаць «не», бо для мяне не праблема стасавацца па-беларуску. Але калі дапетрыў, што апытанка агульнанацыянальная, і варта ацэньваць не «асабістыя адносіны», а стан беларускай мовы ў цэлым, то давялося адказаць «так». Сапраўды, з беларускай мовай у нас шмат праблемаў.

І літаральна цягам месяца гэтай праблеме пачалі надаваць шмат увагі. Напрыканцы верасня Лукашэнка заявіў, што ў школах варта было б дадаць гадзіну ў тыдзень на беларускую мову. Прэм'ер Міхаіл Мясніковіч на калегіі Саўміна раптам выступіў па-беларуску. Нават неўгамонны «крыэйтар», віцэ-прэм'ер Анатоль Тозік заявіў: "Гэта будзе жахліва, калі мы страцім мову. Чым мы тады будзем адрознівацца ад нашых суседзяў?» Як наступства ўсяго гэтага, зараз абмяркоўваецца пытанне аб тым, каб увесці абавязковы экзамен па дзвюх дзяржаўных мовах за курс сярэдняй школы (цяпер навучэнцы здаюць такі экзамен па выбару).

На сустрэчы з пісьменнікамі Лукашэнка заўважыў, што яму дастаткова «пару гадзінаў» паразмаўляць па-беларуску, каб цалкам перайсці на мову. Дый сентэнцыі старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Барыса Пятровіча наконт беларускіх класаў, беларускамоўных школаў і, урэшце, беларускамоўнай ВНУ Аляксандр Рыгоравіч выслухаў, можа, і без імпэту, але з пэўным паразуменнем.

Дык чаму ж улады (не ўсе, што праўда) раптам заклапаціліся праблемай развіцця нацыянальнай мовы? Бо пасля 1994 года згортванне «гвалтоўнай беларусізацыі» падавалася як ці не найпершае дасягненне кіраўніка краіны?

Улады зразумелі, што мова — гэта таксама зброя. Асабліва яскрава гэта выявілася ў падзеях ва Украіне. З аднаго боку, менавіта пагроза «гвалтоўнай украінізацыі» падштурхнула Данбас у накірунку «рускай вясны», а потым і «Наваросіі». З іншага — руская мова стала мовай не толькі «межнацыянальных зносінаў», але і мовай варожасці, дасціпнай прапаганды і інфармацыйнай вайны.




**Праблема мовы стала праблемай грамадскай і геапалітычнай**

Ва ўладзе, пэўна, пачулі развагі пра тое, што на Данбасе Пуцін не спыніцца. Паўстае простае пытанне: «Хто наступны?». Беларусь выглядае лёгкім кавалкам, які проста пракаўтнуць. І справа не ў нас, а ў тым, што важней для Пуціна — страта праз далучэнне адзінага саюзніка альбо ўласны рэйтынг, які трэба падсілкоўваць геапалітычнымі перамогамі «рускага свету».

Так што нам трэба даказаць, што мы — не «Паўночна-Заходні край», а суверэнная дзяржава са сваёй мовай, гербам, сцягам і гэтак далей. І спадзявацца на тое, што другую хвалю экспансіі «рускага свету» Захад не пацерпіць.

Праблема мовы, такім чынам, перастала быць праблемай «вузкаінтэлігенцкай», а стала праблемай грамадскай і геапалітычнай. Паводле дадзеных ліпеньскіх апытанняў Інстытута сацыялогіі НАН Беларусі, сярод найбольш вострых пагрозаў для краіны на бліжэйшую чвэрць стагоддзя грамадзяне краіны назвалі страту роднай мовы — разам са змяншэннем колькасці насельніцтва, п'янствам і алкагалізмам, наплывам мігрантаў, экалагічнымі праблемамі і зніжэннем узроўню жыцця. А паводле атласу ЮНЭСКА «Мовы свету ў небяспецы», беларуская мова таксама знаходзіцца пад пагрозай знікнення.

Пад пагрозай экспансіі «рускага свету» нам даводзіцца зноў вяртацца туды, адкуль сышлі пасля рэферэндуму 1995 года, які «зраўняў у правах» рускую і беларускую мовы. Ці пойдуць улады на «адраджэнне Адраджэння»? І наколькі глыбокай будзе «другая хваля беларусізацыі»? Нават калі яна будзе фармальнай, гэта лепш, чым нічога.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### БАБРУЙСК. Звольненыя рабочыя абвясцілі галадоўку



**Пазбаўленыя працы сябры пярвічкі Свабоднага прафсаюза беларускага на заводзе ТДіА (Трактарных дэталяў і агрэгатаў) распачалі галадоўку. Яны лічаць, што адміністрацыя завода не працягнула з імі кантракты менавіта з-за прафсаюзнай прыналежнасці.**

Нагадаем, нядаўна звольненыя «свабодаўцы» напісалі адкрыты ліст, а таксама накіравалі зварот Аляксандру Лукашэнку.

«Падпісанты звароту адказу з адміністрацыі прэзідэнта пакуль не атрымалі. Прыйшла адпіска, што ён накіраваны ў ВА «МТЗ». Усе разумеюць, што заява вернецца да таго, на каго яны скардзіліся, то бок да дырэктара завода Аляксандра Аграновіча», — адзначыў старшыня прафсаюзнай пярвічкі Міхаіл Кавалькоў.

Звольненыя «свабодаўцы» Мікалай Жыбуль, Алег Шаўчэнка, Аляксандр Варанкін і Аляксандр Грамыка кажуць, што галадоўка будзе працягвацца да таго часу, пакуль іх не пачуе Аляксандр Лукашэнка. Яны ўпэўнены, што іх акцыю падтрымаюць і іншыя звольненыя, а таксама працаўнікі завода.

31 кастрычніка на ТДіА былі звольнены апошнія два падпісанты адкрытага ліста Лукашэнку. Мікалай Жыбуль адпрацаваў на заводзе 30 гадоў, мае ганаровае званне «Ветэран працы РУП БЗ ТДіА», яму заставалася дапрацаваць усяго два гады да пенсіі. Алег Шаўчэнка адпрацаваў на заводзе 16 гадоў.

### ВАЎКАВЫСК. Вярхоўны суд адмовіў у задавальненні скаргі



**Ваўкавыскі грамадскі актывіст Віталь Гуляк атрымаў адказ з Вярхоўнага суда на сваю скаргу па адміністрацыйнай справе за подпісам намесніка старшыні ВС Валерыя Калінковіча.**

Вярхоўны суд не ўзяў пад увагу аргументы скаргі і лічыць, што Віталь Гуляк быў аштрафаваны ў адпаведнасці з дзейсным заканадаўствам: «Вы прыцягнуты да адказнасці не за ажыццяўленне права на свабоду выказвання меркавання і свабоду сходаў, а за парушэнне ўстаноўленага законам парадку такога ажыццяўлення».

Нагадаем, што 13 сакавіка бягучага года грамадскі актывіст быў затрыманы ваўкавыскай міліцыяй за тое, што праводзіў адзіночны пікет у падтрымку Украіны. Віталь Гуляк выйшаў у той дзень з украінскім жоўта-блакітным сцягам і плакатам «Не вайне! Пуцін прэч!» у сквер воінаў-інтэрнацыяналістаў. 17 сакавіка суддзя Ваўкавыскага раённага суда Мікалай Талашка аштрафаваў Гуляка на 10 базавых велічынь, а таксама пастанавіў знішчыць матэрыялы ўдзельніка пікету. Пададзеная ў Гродзенскі абласны суд касацыйная скарга задаволеная не была — суддзя Мікалай Рачынскі пакінуў рашэнне Ваўкавыскага раённага суду без зменаў.

Такім чынам, Віталь Гуляк з адмоўным вынікам прайшоў суды нацыянальных інстанцый і зараз збіраецца звяртацца ў Камітэт па правах чалавека ААН.

### СВІСЛАЧ. Чарговы пераслед Юрыя Глебіка



**1 лістапада да свіслацкага грамадскага актывіста Юрыя Глебіка завіталі прадстаўнікі міліцыі. Яны паведамілі, што ў дачыненні да яго складзены пратакол за нібыта здзейсненае адміністрацыйнае правапарушэнне.**

Гутарка ідзе пра 26 кастрычніка бягучага года, калі ў Свіслачы прайшло пахаванне грамадскага актывіста Віктара Дзесяціка і адбыўся традыцыйны штогадовы Дзень памяці паўстанцаў 1863 года. Юрый Глебік тады выступіў перад прысутнымі і трымаў у руках нацыянальны бел-чырвона-белы сцяг.

За акцыяй памяці пільна сачылі міліцыянты і людзі ў цывільным. Імаверна, што неўзабаве Глебіка звінавацяць у тым, што ён браў удзел у несанкцыянаваным мерапрыемстве і выкарыстоўваў «незарэгістраваную сімволіку». Пакуль позвы ў суд Юрый Глебік не атрымаў.

Два гады таму, у лістападзе 2012-га, Юрый Глебік ужо быў аштрафаваны за ўдзел у святкаванні Дня памяці паўстанцаў 1863 года. Тады суддзя Жана Салагубік засудзіла яго, а таксама Анатоля Валюка і Віктара Дзесяціка да штрафу ў 10 базавых велічынь кожнага.

**Паводле spring96.org**

# Яшчэ адну журналістку пераследуюць

**Сябру ГА «БАЖ» Аліну Літвінчук з Брэста абвінавачваюць у парушэнні артыкула 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях. Паводле пратакола, яе вінавацяць у «незаконнай перадачы і вырабе інфармацыі замежнаму сродку масавай інфармацыі, які не мае акрэдытацыі ў Рэспубліцы Беларусь».**

Аліну Літвінчук выклікалі позвай у адзін з апорных пунктаў Брэста ў якасці сведкі па адміністрацыйнай справе. Калі 29 кастрычніка журналістка наведала міліцэйскі пастарунак, ёй патлумачылі, што яна з'яўляецца абвінавачанай. У якасці «пацярпелага» ў пратаколе фігураваў кіраўнік Брэсцкага гарадскога аддзялення грамадскай арганізацыі «Хрысціянская садружнасць дарослых і маладых» Аляксандр Драчук.

Да пратакола быў прыкладзены зварот за подпісам намесніка начальніка ўпраўлення КДБ па Брэсцкай вобласці А. Крупенькіна ад 1 кастрычніка 2014 года, які рабіў выснову пра «незаконную журналісцкую дзейнасць ад імя замежнага сродку масавай інфармацыі Літвінчук А.С.». У звароце, у прыватнасці, гаварылася, што 25 верасня г.г. журналістка ўзяла інтэрв'ю ў кіраўніка грамадскага аб'яднання «Хрысціянская садружнасць дарослых і маладых» Аляксандра Драчука і падрыхтавала публікацыю па праблеме ўжывання насельніцтвам брэсцкага рэгіёна наркатычных рэчываў. Гэты матэрыял у верасні быў размешчаны на сайце «Беларускага Радыё Рацыя» пад назвай «Аднагодкі школьнікаў распавядуць пра шкоду спайсу». Такім чынам, адзначаецца ў звароце, «у дзеянні Літвінчук А.С. бачацца прыкметы адміністрацыйнага правапарушэння, прадугледжанага арт. 22.9 КаАП Рэспублікі Беларусь (незаконны выраб прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі)».

Да матэрыялаў была таксама прыкладзеная пастанова пра спыненне справы аб адміністрацыйным правапарушэнні за подпісам намесніка начальніка АУС адміністрацыі Ленінскага раёна г. Брэста падпалкоўніка міліцыі А. В. Кугача. Ён спасылаўся на немагчымасць апытаць Літвінчук і героя яе матэрыялу.

Азнаёміўшыся з матэрыялямі справы, журналістка адмовілася даваць паказанні, скарыстаўшыся канстытуцыйным правам не сведчыць супраць самой сябе.

Пасля гэтага супрацоўнік міліцыі Дзмітрый Сверба склаў адпаведны пратакол і ўручыў ёй позву ў суд на 6 лістапада. Пры гэтым ў пратаколе засталіся пустымі графы з дадзенымі пацярпелага і сведак.

Увечары 31 кастрычніка гісторыя атрымала нечаканы працяг: супрацоўнікі міліцыі паспрабавалі пранікнуць у кватэру журналісткі, каб перапісаць пратакол, які суд вярнуў на дапрацоўку.

«Каля 20 гадзін у дзверы кватэры, дзе я пражываю, пачалі настойліва званіць, — распавяла Аліна Літвінчук службе маніторынгу ГА «БАЖ». — Дзверы я не адчыняла, бо папярэдне пра свой візіт мне ніхто не паведамляў, і ў госці я нікога не чакала. Літаральна праз 2–3 хвіліны я пачула, як з грукатам былі адчыненыя дзверы агульнага калідора, а потым пачаліся моцныя штуршкі ў дзверы маёй кватэры. У мяне склалася думка, што іх могуць проста выламаць. Далей пасыпаліся пагрозы, і незнаёмы голас запатрабаваў адчыніць «па-добраму», бо «ты ўсё адно адсюль выйдзеш і нікуды не дзенешся». Таксама прагучала, што «гэта міліцыя, раім паспяшацца».

Перш чым адчыніць дзверы, Аліна Літвінчук патэлефанавала на нумар 102 і распавяла пра спробу незаконнага пранікнення ў жылое прыватнае памяшканне. Як высветлілася, каля ўваходу ў агульны калідор знаходзіўся той самы супрацоўнік міліцыі Дзмітрый Сверба ў цывільным адзенні, які патлумачыў спробу пранікнення ў жылое памяшканне «некарэктнымі паводзінамі свайго напарніка». Па яго словах, накіраваную ў суд справу вярнулі міліцыі на дапрацоўку, і ён прыйшоў да Літвінчук, каб перапісаць пратакол.

Журналістка зноў адмовілася даваць паказанні і падпісваць новы пратакол. Пры гэтым яна заўважыла, што ў графе «сведка» з'явілася дадзеныя Аляксандра Драчука, а графа «пацярпелы» аказалася гэтым разам пустой. Фатаграваць матэрыялы справы супрацоўнік міліцыі забараніў.

Адміністрацыйная справа ў дачыненні да Аліны Літвінчук — ужо дзясятая па ліку сёлета, заведзеная паводле арт. 22.9 КаАП.

**Служба маніторынгу ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў»**

# «Паміж Беларуссю і Расіяй няма розніцы»

Зміцер ГАЛКО

**У беларускай медыяпрасторы разгарэўся скандал вакол клуба «Dozari», які ладзіць «рускія вечарыны». «НЧ» паразмаўляў з адказным за гэтыя вечарыны арт-дырэктарам клуба Аляксандрам Кроітарам.**

— Добры вечар, Аляксандр, хацелася б атрымаць ваш каментар з нагоды скандалу вакол афішы тэматычнай вечарыны «Рускім быць модна».

— О Божа, які ажыятаж! Гэта ўпершыню на маёй памяці, каб чапляліся да афармлення афішы забаўляльнага клуба. Мабыць, гэта спецыфіка вашай... Не, бадай, не краіны, бо да таго, як я пачаў працаваць арт-дырэктарам у «Dozari», тут рэгулярна праводзіліся «рускія вечарыны» без усялякіх наступстваў. Прынамсі, СМІ яны не цікавілі.

— Вы ж разумееце, цяпер іншая сітуацыя.

— А што змянілася?

— Расія пачала праводзіць варожую палітыку ў дачыненні да сваіх суседзяў.

— Да вы што, няма больш сяброўскіх адносінаў паміж краінамі, чым паміж Беларуссю і Расіяй! Паглядзіце, той жа Пуцін з Беларусі проста не вылазіць, прыязджае сюды пастаянна з падарункамі.

— Я маю на ўвазе сітуацыю ва Украіне. Для многіх беларусаў гэта зусім не чужая краіна.

— Так, гэта глупства, якое мусіць скончыцца! Ведаеце, калектыў нашага клубу ў межах глабальнай акцыі Ice Bucket Challenge дасылаў выклікі ўкраінскім палітыкам. Маўляў, складайце зброю, лепей абліваецеся вадой! Зараз мы збіраемся выпусціць каляндар на наступны год пад лозунгам «Make love, not war». Я ўжо рабіў падобны каляндар раней, яшчэ ў Маскве. Якраз для Уладзіміра Пуціна. Ён называўся «Стрыптызёршы супраць вайны ў Сірыі».

— Але ж менавіта Пуцін шмат для каго з'яўляецца зараз увасабленнем агрэсіі. А вы змяшчаеце яго на афішу, ды яшчэ і разам з аўтаматам Калашнікава.

— Вы мне шчыра скажыце, якая ў вас першая асацыяцыя са словам «Расія»? Тут ніякага распальвання, нічога падсуднага. Проста відавочныя маркеры, тое, з чым асацыюецца Расія, руская.

— У адным з сваіх ранейшых інтэрв'ю вы назвалі Мінск «адным з рэгіёнаў Расіі». Вы і цяпер яго так успрымаеце?

— А хіба не так? Я калі ўпершыню патрапіў у Беларусь, нават не зразумеў, што я ў іншай краіне. Ехаў, ехаў — і прыехаў. Мяжы няма, вакол усе па-руску размаўляюць. Паміж нашымі народамі ўвогуле няма ніякай розніцы. Хіба што акцэнт, але ж гэта рэгіянальная з'ява.

— Вы даволі варожа паставіліся да майго калегі, які звярнуўся да вас па-беларуску (Зміцер Панкавец з «Нашай Нівы»)...

— Так, мне тэлефанаваў прадстаўнік нейкага апазіцыйнага выдання. Блін, я сапраўды нічога не зразумеў з таго, што ён мне казаў! Гэта ён да мяне варожа паставіўся, мабыць, падкалоць хацеў, я адразу адчуў. Навошта ён звяртаўся да мяне па-беларуску, калі потым высветлілася, што ён цудоўна валодае рускай мовай?

— А на каго вашы вечарыны разлічаныя?

— Не сакрэт, што ў Расіі выходныя 1–4 лістапада, да нас прыязджае шмат расіянаў, каб адпачыць. У асноўным на іх і разлічаныя. Калі б беларусы прывозілі ў Маскву столькі грошай, дык там бы праходзілі тэматычныя вечарыны «Быць беларусам модна». Я ўпэўнены, што без усялякіх праблемаў.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Грошы на вецер

Сяргей САЛАЎЁЎ

**У эйфарыі ад уяўных экспартных грошай у нас пачынаюцца новыя будоўлі сацыяльных аб'ектаў. Але насамрэч гэтых грошай няма!**



На гэтым тыдні Аляксандр Рыгоравіч падпісаў указ пра будаўніцтва новага будынку лечкамісіі. Як гаворыцца ў дакуменце, інвестыцыйны праект па будаўніцтве комплексу клінічнага медыцынскага цэнтра ў раёне вёскі Ждановічы Мінскага раёна будзе рэалізаваны ў 2014–2017 гадах.

Заказчыкам па праектаванні і будаўніцтве комплексу з'яўляецца КУП «Упраўленне капітальнага будаўніцтва Мінгарвыканкама», генеральнай праектнай арганізацыяй — РУП «Інстытут «Белдзяржпраект», генеральнай падраднай арганізацыяй — ААТ «Будтрэст №1». Указ утрымлівае шэраг норм для стварэння неабходных умоў для рэалізацыі інвестпраекта. Працы па праектаванні і будаўніцтву комплексу будуць фінансавацца за кошт рэспубліканскага бюджэту і бюджэту горада Мінска.

Цікава, чым яму не спадабаўся стары будынак Рэспубліканскага клінічнага медыцынскага цэнтра Упраўлення справамі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, які размешчаны ў цэнтры Мінска? Не так даўно там была зробленая рэканструкцыя, завезенае новае медыцынскае абсталяванне. Тым не менш, плануецца, што гэты будынак будзе перададзены ў вядзенне гарадскіх уладаў.

Грошы на новую будоўлю, канешне, будуць выдаткаваны з бюджэту, але адкуль яны ў бюджэце знойдуцца? Тое, што «харчовы Кландайк» накрываецца, увы ведаюць у Мінсельгасхарчы Беларусі. Прынамсі, у гэтым ведамстве суседзям-расіянам паабяцалі прапрацаваць «у бліжэйшыя дні» новыя падыходы, якія дадуць магчымасць перамагчы рээкспарт і транзіт забароненай у Расіі ежы.

«Патрэбныя дакладныя правілы, каб выключыць рээкспарт і незаконны транзіт. У іх распрацоўцы задзейнічаны ветэрынарная, санітарная і мытная службы. Я думаю, што ў бліжэйшыя дні будуць выпрацаваны новыя падыходы, якія задаволілі б абодва бакі», — заявіў дырэктар дэпартамента ветэрынарнага і харчовага нагляду Мінсельгасхарча Беларусі Васіль Півавар.

Канешне, «бліжэйшыя дні» — паняцце вельмі расцягнутае. Беларусь, можа, і хацела б, каб гэтыя дні расцягнуліся на месяцы альбо нават на гады. Але з расіянамі, як паказвае практыка, такое не пракатвае. Як толькі яны даведаліся, што праз Беларусь у Расію ідзе «эмбаргавая» свініна, дык адразу ж у прадукцыі чатырох беларускіх мясакамбінатаў знайшлі геном віруса афрыканскай чумы свінняў. «Пад раздачу» патрапілі прадпрыемствы Оршы, Мінска, Магілёва, Бабруйска. А потым да іх дадалося яшчэ і СЗАО «Белатміт» з магілёўскай вобласці. Прычым, апошняму без усялякіх расследаванняў і пагадненняў (у адрозненне ад чатырох дзяржаўных мясакамбінатаў) Расельгаснагляд спыніў выдачу ветэрынарных сертыфікатаў на адгрузку ў РФ свініны і прадукцыі свінагадоўлі, уключаючы гатовую прадукцыю.

Мінсельгасхарчу Беларусі прыйшлося часова спыніць пастаўкі свініны ў Расію. 30 кастрычніка Беларусь прыняла рашэнне да 11 лістапада прыпыніць пастаўкі свініны ў Расію ў сувязі з АЧС і прыпыніць сертыфікацыю прадукцыі свінагадоўлі для расійскага рынку ў адпаведнасці з рэжымам самаабмежавання. Абмежаванні тычацца астуджанай і замарожанай свініны, субпрадуктаў.

«Асноўная рабочая версія, якую мы сталі адпрацоўваць адразу ж пасля першага выпадку выяўлення геному віруса АЧС у беларускай прадукцыі, — крыніцай магла стаць імпартная сыравіна», — паведаміў прадстаўнік Мінсельгасхарчу Аляксей Багданаў. Ён адзначыў, што ў цяперашні час у заражэнні свініны падазраюцца Чарнагорыя і Малдова, у сувязі з чым з 1 лістапада часова прыпыняецца імпарт свініны з гэтых краін. «Прадукцыю з гэтых краін мы забаранілі ўвозіць, таксама канфіскавалі ўсё ўжо ўвезенае з гэтых краін мяса», — падкрэсліў прадстаўнік Мінсельгасхарча.

Ці ўдасца ўсё зваліць на замежных пастаўшчыкоў сыравіны? Можа быць, і атрымаецца, а можа і не. Па вялікім рахунку, Расіі павінна быць паралельна, адкуль мы бярэм мяса на нашыя каўбасы і сасіскі. Галоўнае, каб прадукцыя, якая ідзе ў Расію, была бяспечнай. Гэта — іх інтарэс. А наш інтарэс у тым, каб гэтыя пастаўкі не спыняліся. І гэта мы павінныя правяраць мяса на магчымую небяспеку.

Але вось што хвалюе. Нашы мінсельгасхарчаўцы, зразумела, сканфіскавалі небяспечную свініну і прыпынілі «сертыфікацыю прадукцыі свінагадоўлі для расійскага рынку». Пра сертыфікацыю прадукцыі для нашага, беларускага рынку, не было сказана ні слова. Ці не патрапіць гэтая «рээкспартная» свініна на сталы беларусаў? Пра гэта ніхто ніводным словам не абмовіўся.

Такім чынам, «харчовае эмбарга» мы абавязаліся выконваць, з пастаўкамі свініны — часовы швах. Дзе ж знайсці грошы на паліклініку?

Канешне, у самых расіянаў і, канешне ж, звыклым для папаўнення беларускага бюджэту спосабам. Генеральная пракуратура Беларусі не забылася пра былога топ-менеджара «Уралкалія» Уладзіслава Баўмгертнера, нягледзячы на тое, што ягоную справу цалкам перадала расійскаму следству. Як паведаміў генеральны пракурор Беларусі Аляксандр Канюк, ягонае ведамства пацвярджае свой намер прад'явіць грамадзянскія пазовы на судзе над былым гендырэктарам «Уралкалія». «Мы адназначна будзем заяўляць гэтыя грамадзянскія іскі», — сказаў Канюк.

Канюк назваў і суму пазову — каля 100 мільёнаў долараў. На гэтыя грошы можна пабудаваць не адну, а дзве-тры паліклінікі!

Але праблема ў тым, што грошы патрэбныя зараз, а калі яны будуць даступныя — невядома. У цяперашні час расследаванне справы яшчэ працягваецца, таму казаць пра дату суда заўчасна. Генпракурор Беларусі не выключыў таксама, што «калійная» справа можа быць разгледжана і ў міжнародным судзе. «Які гэта будзе суд — або міжнародны, ці ж гэта будзе суд расійскі… такая практыка існуе», — адзначыў ён.

Улічым, што разгляды спраў у міжнародных судах могуць цягнуцца гадамі, а тое і дзесяцігоддзямі. Напрыклад, справу «ЮКАСА» Еўрапейскі суд па правах чалавека разглядаў 8 год.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Валеры Карбалевіч

**Знакамітага беларускага палітолага 2 лістапада ў аэрапорце Франкфурта затрымала нямецкая паліцыя.**



Карбалевіч накіроўваўся ў Страсбург на Сусветны форум за дэмакратыю. Але паліцыя не пусціла яго на тэрыторыю Германіі з-за таго, што ягоная новенькая шэнгенская віза была аформленая ў Славацкім пасольстве. Адпаведна, уязджаць на тэрыторыю Шэнгена ён павінен быў праз Славаччыну.

«Нямецкая паліцыя вырашыла, што я не маю права ўезду на тэрыторыю Германіі. Раней я быў перакананы, што магу прыехаць па ёй. Аказваецца, не магу», — сказаў Карбалевіч.

Карбалевіча «завярнулі» ў транзітную зону аэрапорта, дзе ён пераначоўваў, бо зваротны квіток у яго быў толькі праз тры дні, а пераафарміць яго немагчыма — касы ж на тэрыторыі аэрапорта, куды палітолага не пусцілі.

Але ўсё добра, што добра заканчваецца. Пасля сутак, праведзеных у аэрапорце Франкфурта, Карбалевіч здолеў трапіць у Страсбург — пры дапамозе МЗС Германіі яму выдалі аднаразовую візу. Карбалевіч паведаміў, што пра гэта моцна паклапаціліся таксама Рада Еўропы і пасольства Германіі ў Беларусі.

## Аляксандр Канюк

**Генеральны пракурор Беларусі лічыць, што беларусы не дараслі да цывілізаванага свету.**



Выступаючы ў парламенце, Аляксандр Канюк заявіў, што грамадства і дзяржава «не гатовыя» да ўвядзення ў краіне інстытута судоў прысяжных.

«Напэўна, мы яшчэ не гатовыя. Дзяржава не гатова да гэтага. Не гатовы менталітэт нашага народа», — заявіў Канюк. Больш за тое, у сваім выступе Канюк назваў інстытут прысяжных «судом натоўпу», зазначыўшы, што такім судом была апраўданая «заслужаная рэвалюцыянерка», якая забіла чалавека. І расказаў, як у адной з заходніх краін праходзіў вельмі сур'ёзны судовы працэс па цяжкім злачынстве, для якога прысяжных падбіралі прыкладна год. Канюк лічыць гэта абсурдам.

Прыведзеныя Канюком прыклады кажуць хутчэй пра тое, што з менталітэтам кепска ў самога генпракурора, а не насельніцтва. Справа Веры Засуліч разглядаецца, наадварот, як гонар правасуддзя, улічваючы абставіны здзяйснення злачынства. Дарэчы, і Трэпава яна не забіла, а толькі параніла. Сорамна генпракурору не ведаць класічных прыкладаў юрыспрудэнцыі!

Што ж да негатоўнасці дзяржавы да суду прысяжных… Безумоўна, куды прасцей зняць трубку тэлефона і прадыктаваць суддзі патрэбны для ўлады вердыкт.

## Аляксей Лашкевіч і «Цмокі»

**Баскетбалісты папулярнага беларускага клуба «Цмокі» ў Адзінай лізе ВТБ пацярпелі пяць паразаў запар.**



На агульным сходзе гульцы разам з кіраўніцтвам і прадстаўнікамі трэнерскага штаба абмяркоўвалі прычыны няўдалых выступленняў, а таксама спосабы, якія могуць дапамагчы пераадолець крызіс. Пасля абмену думкамі спартсмены прынялі рашэнне, якому цяжка знайсці аналагі ў гісторыі беларускага спорту.

Усе без выключэння «драконы» добраахвотна адмовіліся ад належных па кантрактах заробкаў за кастрычнік.

Форвард і капітан «Цмокаў» Аляксей Лашкевіч патлумачыў рашэнне: «У пяці стартавых матчах Адзінай лігі ВТБ клуб не паказаў тых вынікаў, якіх ад яго чакалі. Для паляпшэння сітуацыі, якая склалася на восеньскім адрэзку, патрабаваўся стымул. Найбольш дзейсным з іх, на погляд усіх гульцоў «драконаў», з'яўляецца адмова ад месячнай заработнай платы. Прыемна, што хлопцы з разуменнем паставіліся да дадзенага рашэння — і пагадзіліся, што яно неабходнае».

Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Чаго няма ў беларускай каўбасе?




**17 кастрычніка пяць з паловай гадзін адзіны палітык пераконваў расійскіх журналістаў у тым, што Рэспубліка Беларусь не з'яўляецца сучаснай дзяржавай.**

Калі верыць Льву Талстому, усе шчаслівыя сем'і падобныя адна на адну, а кожная няшчасная сям'я няшчасная па-свойму. З краінамі тая ж гісторыя. Усе паспяховыя (дынамічныя) краіны аддаюць перавагу ўніверсальным каштоўнасцям, і ўжо хаця б таму падобныя адна на адну.

Не здольныя да развіцця краіны прынята называць «краінамі, якія развіваюцца». Усе яны выбіраюць свой уласны «асаблівы шлях», па якім упэўнена рухаюцца ў напрамку гістарычнага тупіка.

Пра нацыянальныя асаблівасці беларускага варыянту «ўласнага шляху» Аляксандр Лукашэнка пяць з паловай гадзін распавядаў расійскім журналістам 17 кастрычніка.

У цэнтры яго апавядання быў... ён сам. Нічога дзіўнага ў тым няма — гэта ж галоўная асаблівасць беларускай мадэлі. Яна пашытая па еўрапейскіх лякалах, але з часавым лагам у тры з паловай стагоддзі. Як тут ні прыгадаць папулярную ў сярэднявечнай Еўропе формулу дзяржаўнасці, аўтарства якой прыпісваюць Людовіку XIV: «Дзяржава — гэта я!»

### Агаворка па Фрэйду

Кароткі ўступ кіраўнік дзяржавы зачытаў па паперцы. Гэтым і варта растлумачыць не ўласцівыя яму абароты: «Мы выконваем дамоўленасці...», «Мы адстойваем эканамічныя інтарэсы...», «Мы дзейнічаем у духу саюзніцкіх адносін...»

Але варта толькі было Лукашэнку адкласці ўбок тэкст, падрыхтаваны спічрайтэрамі, як займеннік першай асобы множнага ліку «мы» аказаўся рашуча адсунуць на задні план займеннікам першай асобы адзіночнага ліку «я».

Першае пытанне на прэс-канферэнцыі, натуральна, тычылася падзей на Украіне. Лукашэнка свой падрабязны адказ пачаў з напаміну пра тое, што «заўсёды (заўсёды!) Знаходзіў агульную мову з любымі палітыкамі, якія былі ва ўладзе ва Украіне». Г. зн. беларуска-ўкраінскія адносіны ён успрымае як свае асабістыя адносіны з «вядучымі палітыкамі Украіны».

Украінскім палітыкам, як і простым украінцам, пашанцавала: «Вы ведаеце, я вельмі добра стаўлюся да ўкраінскага народа. Тут ёсць і асабістыя прычыны — я ў свой час служыў у памежных войсках, цэнтр нашай акругі быў у Кіеве — Заходняя памежная акруга». Такая вось логіка.

Страшна ўявіць, як бы маглі скласціся адносіны паміж двума народамі і дзвюма дзяржавамі, калі б які-небудзь невядомы ваенкам не накіраваў у свой час маладога беларускага хлопца з-пад Шклова служыць у Заходнюю памежную акругу!

Актуальнасць формулы дзяржаўнасці Людовіка XIV у сучаснай Беларусі Лукашэнка ўвесь час пацвярджаў агаворкамі па Фрэйду. Абмяжуюся адной: «І вось на сцэне гэтай стаяць Лукашэнка, Назарбаеў, Кучма, — гэта значыць **дзяржавы** (вылучана — С.Н.), якія павінны выводзіць гэту ядзерную зброю».

Сучасныя дзяржавы, у адрозненне ад сярэднявечных еўрапейскіх дзяржаў, — абязлічаныя. У Англіі, напрыклад, старт абязлічванню даў канцлер казначэйства Томас Кромвель у 1537 годзе. Сваю «рэвалюцыю ў дзяржаўным кіраванні» ён пачаў з надання вялікай пячатцы статусу афіцыйнага сімвала дзяржавы. Што тычыцца каралеўскай пячаткі, дык яна страціла сваё значэнне і стала выкарыстоўвацца толькі ў якасці асабістага каралеўскага знака ў ліставанні караля са сваякамі.

### Пазітыўныя прыклады не злічыць

У ходзе прэс-канферэнцыі Лукашэнка падрабязна растлумачыў механізм стварэння асабаснай дзяржавы. Цэнтральны момант — замена Канстытуцыі, прынятай на хвалі дэмакратычных чаканняў у першыя постперабудовачныя гады («Трэба, каб была прэзідэнцкая ўлада з канкрэтнымі, наколькі гэта магчыма, моцнымі паўнамоцтвамі прэзідэнта»).

Галоўная перашкода на шляху стварэння моцнай прэзідэнцкай улады — парламент. Метад яго ліквідацыі — рэферэндум. Далей даю слова тэарэтыку і практыку сучаснай беларускай дзяржаўнасці: «Калі ў мяне гэта было (вынікі рэферэндуму) — я прыйшоў у Парламент і паклаў Канстытуцыю на стол, кажу: «Вось праект, які мы ўнеслі на галасаванне, народ прагаласаваў, яго трэба зацвердзіць». Не толькі нацмены нашы, якія там сядзелі, а іх была меншасць, але і камуністы выступілі катэгарычна супраць. Тады я ім прама і шчыра сказаў: «Хлопцы, калі вы гэта не зробіце, я вас разганю імем народа, таму што народ прагаласаваў за гэтую Канстытуцыю».

Сумнявацца ў волевыяўленні народа не даводзіцца: «Тады фальсіфікаваць я не мог, таму што ў мяне не было ніякіх паўнамоцтваў, тады ўсе рычагі ўлады былі ў іншых...»

Ці ўсё рычагі, ці не ўсе былі тады ў іншых — праз два дзясяткі гадоў усталяваць няпроста, дый які сэнс разбірацца ў тым, што было тады...

Замена парламента на моцную прэзідэнцкую ўладу азначае замену людзей безадказных, тых, хто галасуе «з заплюшчанымі вачамі», на чалавека, «які б нёс персанальную адказнасць за ўсё, што адбываецца».

Беларусам пашанцавала. Менавіта такі чалавек ужо дваццаць першы год узначальвае незалежную беларускую дзяржаву. Пазітыўныя прыклады не злічыць. Абмяжуюся трыма.

Сёння айчынная каўбаса на ўвесь свет славіцца тым, што не ўтрымлівае туалетнай паперы. А чаму? А таму што мы не адмовіліся ад савецкіх ГОСТ. Адгадайце з трох разоў, па чыёй ініцыятыве?

Жорсткая забарона на дадаванне туалетнай паперы ў каўбасныя вырабы можа здзівіць маладых чытачоў «НЧ». Аднак усё тлумачыцца проста. Ва ўмовах развітога сацыялізму туалетная папера была ў не меншым дэфіцыце, чым каўбаса. І гэта мякка сказана.

Складальнікі савецкіх ГОСТ цудоўна разумелі, што дзякуючы творчай кемлівасці работнікаў мясакамбінатаў туалетная папера даходзіла б да спажыўцоў, але не з боку, прадугледжанага нарматыўнымі дакументамі.

Беларуская эканоміка — экспартна арыентаваная. Гэта не навіна. Персанальная адказнасць за ўсё мае на ўвазе і адказнасць за збыт прадукцыі беларускіх прадпрыемстваў на знешніх рынках. Асабістыя сувязі тут, як нідзе, спрыяюць павышэнню эфектыўнасці камерцыйных здзелак: «Я кажу: «Аман (губернатар Кемераўскай вобласці Аман Тулееў), мы з табой сябры, скажы, па якіх цэнах МТЗ ты хочаш наш прадаць?» — «Ну не ведаю». «Добра, давай зробім так (выйшлі да яго акна). Вось — плошча велізарная перад тваім выканкамам, я заўтра на гэтую плошчу... Колькі? Тысяч дзесяць трактароў змесціцца? Я табе прывязу па гэтых дэмпінгавых цэнах. А ты перапрадай у два разы даражэй і забяры сабе грошы».

А наш гонар — Парк высокіх тэхналогій. «Я яго сілай ствараў, было шмат праціўнікаў». Дзе яны цяпер?

### Галоўная праблема беларускай мадэлі

Кіраўнічы стыль АП імпануе большасці беларусаў (гл. табліцу). 42% упэўненыя, што без персанальнага кантролю «зверху» многія кіраўнікі прадпрыемстваў перастануць «варушыцца». Але гэта сярэдні паказчык па «бальніцы». Сярод рэспандэнтаў, якія давяраюць АП, гэты паказчык склаў 55%, сярод тых, хто яму не давярае, — 25%.

З такім меркаваннем цяжка не пагадзіцца. У гэтым і заключаецца галоўная праблема беларускай мадэлі, а калі казаць шырэй, галоўная праблема беларускага грамадства і дзяржавы. Час сацыяцэнтрычнай культуры прайшоў, а час персонацэнтрычнай культуры сярод родных асін так і не надышоў.

Варта аслабнуць уладнай «вертыкалі», як на месцах перастаюць «варушыцца». Варта ад дэкларавання прынцыпу падзелу ўладаў паспрабаваць перайсці да іх рэальнага падзелу, як у дзверы пачынае стукацца хаос, за плячыма якога маячыць грамадзянская вайна.

Ва ўсходняга суседа — аналагічная праблема. Шматвяковы вопыт будаўніцтва «моцнай дзяржавы» апынуўся непрыдатны ў сучасных умовах. «Ёсць Пуцін — ёсць Расія. Няма Пуціна — няма Расіі», — заявіў на днях намеснік кіраўніка крамлёўскай адміністрацыі Вячаслаў Валодзін.

Дзесьці штосьці падобнае я ўжо чуў. За пяць хвілін з дапамогай Google знайшоў шуканае: «Die Partei ist Hitler; Deutscland ist Hitler; Hitler ist Deutschland» (Партыя — гэта Гітлер; Германія — гэта Гітлер; Гітлер — гэта Германія).

Не думаю, што крамлёўскі чыноўнік свядома звярнуўся да цытавання намесніка Гітлера па нацысцкай партыі Рудольфа Геса. Не, формулу сучаснай Расіі яму падказала падсвядомасць. А падсвядомасць ва ўсіх «вертыкальшчыкаў» функцыянуе аднолькава.

Пуцін — адзіны палітык у Расіі. Гэты ўнікальны факт пацвярджаюць усе сацыялагічныя службы. Вось толькі не зразумела, ці варта нам у сувязі з гэтым радавацца за нашых усходніх братоў па розуму, ці сумаваць?

З аднаго боку, Пуцін у расіян ёсць. Адзін безальтэрнатыўны палітык на 143 мільёна чалавек. Ну як тут не ўзрадавацца. Пашанцавала расіянам. Бо яго магло б і не быць. А гэта азначае, што Расія ў XXI стагоддзі не мела б шанцаў падняцца з каленяў, а разам з ёй не падняўся б і рускі народ. Як тут ні працытаваць пісьменніка Фёдара Дастаеўскага: «Свабода рускага чалавека — гэта свабода дзяцей вакол бацькі».

Але, з іншага боку, усе мы пад Богам ходзім, і адзіны палітык Расіі ў гэтым сэнсе не з'яўляецца выключэннем. А тут яшчэ злыя галасы з-за бугра намякаюць на анкалогію. Цана такім паклёпам — тры капейкі ў кірмашовы дзень, а ўсё адно трывожна.

**Лукашэнка рэгулярна здзяйсняе паездкі па краіне, падчас якіх наведвае прамысловыя і сельскагаспадарчыя прадпрыемствы. З якім з ніжэй прыведзеных меркаванняў вы згодныя?**

| Варыянт адказу | % |
|---|---|
| Калі б ён не ездзіў і асабіста не кантраляваў працу прадпрыемстваў, многія кіраўнікі на месцах пераcталі б «варушыцца» | 42 |
| Ён вымушаны ўнікаць часам у далёкія для яго сферы дзейнасці, каб лепш разумець, што адбываецца на месцах | 29 |
| Прэзідэнт павінен вырашаць стратэгічныя пытанні, а не падмяняць кіраўнікоў на месцах | 28 |
| Цяжка адказаць / няма адказу | 1 |

НІСЭПД, верасня 2014 года

# У чыноўнікаў — свая званіца

Андрэй ШЫНГАРОЎ

**Беларускія чыноўнікі ўспрымаюць рэформы не як пераўтварэнні з канкрэтнымі мэтамі, а як пастаянны працэс зменаў заканадаўства і ўмоваў функцыянавання дзяржапарату.**

Пад пастаяннымі зменамі работнікі дзяржсектара маюць на ўвазе рэгулярнае абнаўленне заканадаўчых актаў, увядзенне новых праграм і формаў справаздачнасці. Здольнасць падладзіцца пад такія «рэформы» расцэньваецца як высокі ўзровень прафесіяналізму.

Да такіх высноў прыйшлі эксперты па выніках даследавання «Беларускі дзяржсектар: каштоўнасці, чаканні і ўспрыманне рэформаў», у аснову якога ляглі 12 фокус-групавых дыскусій з удзелам работнікаў дзяржсектара, праведзеных у Мінску і рэгіёнах па замове Інфармацыйнага бюро салідарнасці з Беларуссю (SBIO). Даследаванне праводзілася пад кіраўніцтвам экспертаў Беларускага інстытута стратэгічных даследаванняў (BISS, Вільнюс) Алены Арцёменка і Аляксандра Аўтушка-Сікорскага ў рамках праекта «Рэфорум».

«Адным з асноўных вынікаў даследавання сталі выяўленыя адрозненні ў групе занятых у дзяржаўным сектары ў галіне каштоўнасцяў, жыццёвых установак, схільнасці да рызыкі і стаўлення да працоўнай мабільнасці. Гэтыя адрозненні залежаць ад памеру горада, у якім жывуць супрацоўнікі дзяржсектара, і іх узросту. Акрамя таго, адрозненні фіксуюцца паміж чыноўнікамі і астатнімі занятымі ў дзяржсектары», — адзначаецца ў высновах даследавання.

У цэлым для ўсіх работнікаў дзяржсектара вельмі важная «ўпэўненасць у заўтрашнім дні»: стабільны годны заробак, адсутнасць рызыкі звальнення і паважлівае стаўленне да іх працы. Толькі нязначная група (у асноўным маладых людзей) гатовая да рызыкі, каб дамагчыся павелічэння сваіх даходаў.

Цікава, што пры такой празе стабільнасці пагроза звальнення чыноўнікаў практычна не палохае. Часцей за ўсё яны лічаць сябе альбо незаменнымі, альбо здольнымі лёгка знайсці працу ў прыватным сектары.

У той жа час супрацоўнікаў дзяржпрадпрыемстваў значна больш трывожыць пагроза магчымай змены дзейнасці, так, у прыватнасці, яны песімістычна настроеныя адносна перспектыў сваёй запатрабаванасці на рынку працы. У выніку пры нізкім узроўні аплаты працы менавіта зарплата як такая, а не магчымасць яе павышэння, з'яўляецца асноўным стымулам для працы, што, на думку даследчыкаў, робіць супрацоўнікаў дзяржпрадпрыемстваў свайго роду закладнікамі працы на дзяржаву.

Чыноўнікі ўспрымаюць сваю дзейнасць як грамадска важную і значную, аднак пры гэтым лічаць свой узровень даходу недастатковым, а саму прафесію — непрэстыжнай у вачах грамадства.

«Акрамя таго, яны часта адзначаюць, што кіраўнічыя рашэнні ў сістэме дзяржслужбы... спускаюцца зверху. У чыноўнікаў няма магчымасці выказаць сваё меркаванне і паўплываць на змены, якія ім даводзіцца ўкараняць у працу», — адзначаюць аўтары даследавання.

І чыноўнікі, і супрацоўнікі дзяржпрадпрыемстваў наракаюць на наяўнасць істотных перашкодаў для працоўнай мабільнасці. У якасці сістэмных перашкод чыноўнікі паказваюць наяўнасць кланавасці ў дзяржапараце і кумаўства як аднаго з механізмаў прыёму на працу.

Пры гэтым чыноўнікі самі дэманструюць даволі стрыманае стаўленне да ідэі кар'ернага росту: заробак у такім выпадку павялічыцца неістотна, а нагрузка — значна. «Дзяржслужачыя баяцца павелічэння адказнасці пры павышэнні па службе: рост адказнасці часцей азначае большае пакаранне пры правале, аж да крымінальнай адказнасці», — падкрэсліваюць аўтары даследавання.

Супрацоўнікі дзяржпрадпрыемстваў, у сваю чаргу, наогул заяўляюць аб абмежаваных магчымасцях для кар'ернага росту, бо па шэрагу прычын расці ім часцяком проста няма куды.




Усе работнікі дзяржсектара кажуць аб нізкіх магчымасцях рэалізацыі сваіх здольнасцяў на працы ў сувязі з тым, што ініцыятыва часцей за ўсё караецца.

Супрацоўнікі дзяржпрадпрыемстваў і чыноўнікі па-рознаму ацэньваюць таксама ўзровень жыцця ў Беларусі. Калі першыя адназначна лічаць, што ён ніжэй, чым у іншых краінах, то чыноўнікі схільныя адстойваць той пункт гледжання, што сітуацыя ў РБ не горш, а часам і лепш, чым у еўрапейскіх дзяржавах.

**www.belmarket.by**
**Інфаграфіка Яны Дзебёла, zautra.by**
**Пераклад НЧ**

# Шанаванне крывавага перавароту

Генадзь КЕСНЕР

**Беларусь, краіна ў цэнтры цывілізаванай Еўропы, застаецца, відаць, апошняй, дзе 7 лістапада ўсё яшчэ адзначаецца гадавіна кастрычніцкага перавароту 1917 года як свята «Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі». І гэта там, дзе слова «рэвалюцыя» ў самой уладзе выклікае нервовыя зрывы ды ныркавыя колікі.**




Дагэтуль 7 лістапада застаецца ў Беларусі «чырвоным лістком календара», выхадным днём. Нават у суседняй Расіі яшчэ пры «цары Барысе» (Ельцыне) гэты дзень перастаў быць святам, але быў прызнаны гадавінай велізарнай трагедыі. Таму крамлёўцы ў свой час вырашылі не святкаваць больш тую гадавіну, але 4 лістапада адзначаюць нейкі там дзень нейкага там замірэння. У тое, што такое «замірэнне па-руску», паглыбляцца не будзем — сённяшнія падзеі ўнутры самой «паўстаючай з каленяў» імперыі і яе паводзіны на знешнім накірунку, напрыклад, у дачыненні да Украіны, сведчаць самі за сябе.

Нягледзячы нават на тое, што цяперашні расійскі правадыр Пуцін неаднойчы заяўляў, што развал Савецкага Саюза быў «галоўнай геапалітычнай трагедыяй дваццатага стагоддзя», у Расіі свята «Вялікага Кастрычніка» не адрадзілі. Не той час, не тыя ўмовы ды абставіны. Не тая кан'юнктура. Там сёння папулярныя ідэі адраджэння манархіі, і нават усё часцей агучваецца імя таго, хто варты зноўку стаць расійскім «Імператарам усяе-ўсяе-ўсяе і гэтак далей». Толькі вось «гэтак далей» — дзе яно? Але не пра гэта гаворка.

У Беларусі так і не спрычыніліся да адмены таго знакавага савецкага свята. Дык чаму гэты анахранізм працягвае адзначацца ў нашай краіне?

Навідавоку прымітыўны, але, відаць, верны адказ: дзейная беларуская ўлада па сваёй сутнасці прынцыпова нічым не адрозніваецца ад улады тых, што 70 гадоў трымалі ў сваіх кіпцюрах ледзь не палову свету. Камунізм нікуды з Беларусі не падзеўся: існаванне так званай «Лініі Сталіна», безліч помнікаў чырвоным правадырам па ўсёй краіне, тапаніміка, калі нават у цэнтры беларускай сталіцы куды ні зірні, паўсюль камуністычныя назвы.

Мала вуліц з імёнамі слынных беларускіх ваяроў, пісьменнікаў, паэтаў, навукоўцаў, іншых вартых таго асобаў, затое ў нас шануюць Розу Люксембург і Клару Цэткін, Уладзіміра Леніна і Міхаіла Калініна, Фелікса Дзяржынскага ды іншых Мяснікоўых і Мяржынскіх et cetera.

Камуністычная вакханалія пад назвай «XXXV з'езд СКП-КПСС» мінулаю суботаю таксама адбылася ў сталіцы Беларусі. Гэтая тусоўка нават была вітаная афіцыйным беларускім лідарам. Праўда, персанальна ён там не з'явіўся. Але пісьмова прывітаў. А потым таварыш Зюганаў — фюрэр КПРФ — заклікаў да супольнай барацьбы з «кіеўскай бандэраўска-фашысцкай хунтай», нават нягледзячы на тое, што Аляксандр Лукашэнка шматкроць заяўляў пра сваё прыязнае стаўленне да новага ўкраінскага кіраўніцтва. Вось дык прыгрэў сапраўдную «пятую калону» міжнароднага ўзроўню!

Трэба прызнаць, што Беларусь і дагэтуль па вялікім рахунку застаецца чырвонай, камуністычнай. Гэтая камуністычнасць, хоць і не афіцыйная, пакідае нашу краіну па-за цывілізаваным светам. Паводзіны ўлады і сілавікоў нагадваюць нават не брэжнеўскія, але сталінскія часы з невялікімі папраўкамі на гістарычны перыяд і на адкрытасць грамадства ды сучасныя інфармацыйныя тэхналогіі.

Страх ды безыніцыятыўнасць у грамадстве, каманда-планавая сістэма ў эканоміцы, усёдазволенасць і беспакаранасць сілавікоў маюць месца і цяпер. Афіцыйнае «свята» 7 лістапада, віншаванні, прынамсі, у сталічным грамадскім транспарце ад імя «Мінскага гарадскога савета дэпутатаў і Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта» з днём «Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі» — наша рэальнасць.

І хоць у гэты дзень ужо не праводзяцца дэманстрацыі ці парады, дух камунізму ўсё яшчэ лунае над нашай краінай, якая ад камуна-бальшавізму, як і ад гітлераўскага фашызму, пацярпела, бадай, больш за іншых.


Вуліца 1 Мая, 17


Вуліца Кірава, 3


Аскепкі ліцця пач. XX ст. на вуліцы 17 верасня, 53

# Куды знікае ліццё старога Гродна?

Алесь КІРКЕВІЧ

**Тым часам, як у старым горадзе аўтэнтычных балконаў застаецца ўсё менш, некаторыя з іх можна адшукаць у прыватных катэджах.**

Больш як год таму гучная справа з выкрадзеным сярод белага дня старога балкону ў цэнтры Гродна абляцела ўсе СМІ. Паводле сведкаў, да будынку на вуліцы Кірава, 3 пад'ехаў джып, з якога выйшла жанчына, а з ёй — два мужчыны, якія адпілавалі гаўбец, пагрузілі яго ды ад'ехалі. Гэта прытым, што і вонкавая частка турмы насупраць, і сам дом знаходзяцца пад відэаназіраннем (прынамсі, згодна з шыльдамі на сценах). На дадзены момант справа прыпыненая, нікога не знайшлі.

## Балконы здымаюць без шуму падчас рамонтаў ЖЭСы

«Калі дзёрзка скралі гаўбец каля турмы, падняўся вэрхал, — кажа мастацтвазнавец і спецыяліст па коўцы і ліццю Любоў Зорына, — але калі тое самае адбываецца ў выніку планавых рамонтаў — на гэта не звяртаюць увагу. Усё ціха і спакойна — бо гэта робяць дзяржаўныя органы».


Любоў Зорына

Паводле Зорынай, на вул. Будзёнага, 36, на вул. 1 Мая, 24, вул. Паўлоўскага, 21 апошнім часам зніклі старыя гаўбцы. На Паўлоўскага, напрыклад, у доме 1910 года пабудовы два балконы засталіся аўтэнтычныя, а два — замененыя на новыя. Старое ліццё замененае на так званую коўку, зробленую па сучасных тэхналогіях.

«Замоўнікамі рамонтаў будынкаў выступаюць ЖЭСы, — працягвае Зорына, — закон, безумоўна, парушаецца, бо на ўсіх гэтых будынках вісяць шыльды «Помнік архітэктуры». Але, думаю, гэтыя людзі і паняцця не маюць, што трэба захоўваць нейкія старыя элементы — робяць, як прасцей».

Зразумела, можа мець месца і неадукаванасць, але цалкам мажліва і свядомая зацікаўленасць у павелічэнні кошту працаў: адна справа — пачысціць стары гаўбец, іншая — усталяваць новы.

## «На старых могілках адбывалася нешта неверагоднае...»

А ці былі нейкія спробы каталагізаваць усе малыя архітэктурныя формы з мэтай рэстаўрацыі і аховы? Выявілася, што былі. Напрыканцы 1980-х — пачатку 1990-х гадоў гэтым займалася праектная арганізацыя Спецрэстаўрацыя. З бюджэту былі вылучаныя грошы, і па ўсім горадзе была праведзеная фотафіксацыя балконаў, каваных поручняў, крыжоў, розных дзвярэй ды печаў. Культурай у гарвыканкаме акурат займаўся Аляксандр Мілінкевіч. Аднак прайшоў час, на рашэнні гарвыканкама забыліся...

«Першымі ў мяне на вачах пачалі зыходзіць разныя дзверы, — узгадвае гісторык Ігар Трусаў, — на старых могілках адбывалася нешта неверагоднае: калі параўноўваць вынікі той фотафіксацыі і сучасны стан, выявіцца, што дзе-ніздзе не хапае 20 працэнтаў цікавых металічных агароджаў! Чаму могілкі? Бо лёгка! Гідраўлічнымі нажніцамі зразалася агароджа, вывозілася,


Ігар Трусаў

чысцілася пескаструем і прадавалася ў Польшчу альбо ў Расію ў якасці камінных кратак».

Аб тым, што старадаўні мастацкі метал знікае менавіта з могілак, распавяла і Любоў


Фота аўтара

Аскепкі ліцця пач. XX ст. на вуліцы 17 верасня, 53




Катэджы ў Паўднёвым

Зорына. Паводле яе, агароджы і крыжы (!) наўпрост здаюць на металалом. Такі лёс, у прыватнасці, напаткаў крыж з надмагілля Барычэўскага са старых гродзенскіх праваслаўных могілак па вул. Антонава гады тры таму.

## Шукайце канцы ў катэджных пасёлках альбо на металаломе

Ці з'яўляюцца падобныя прадметы ў калекцыянерскіх колах? Старшыня Беларускага нумізматычнага таварыства, калекцыянер Віктар Какарэка ўпэўнены, што не: «Калі на іх нават і ёсць рынак, то яны неяк праходзяць міма калекцыянераў. У 1990-х гадах траплялася, што прадавалі, напрыклад, старыя кафляныя печы ў горадзе. Падобных выпадкаў стасоўна мастацкага металу мне не траплялася».

Разам з тым, можна наўпрост прайсціся па катэджным па-


Віктар Какарэка

сёлку Паўднёвы (зараз у межах Гродна), каб выявіць некалькі літых балконаў дарэвалюцыйнай вытворчасці. Адзін з іх, паводле класіфікацыі Зорынай, зроблены ў фірме Вячоркі ў Беластоку ў канцы XIX — пачатку XX стагоддзя. Іншы, неабарочны — дакладная копія балкона, зніклага з вуліцы Кірава, 3...

Варта адзначыць, што ў «зоне рызыкі» найперш знаходзяцца нежылыя старыя будынкі, за якімі няма сталага нагляду. У вялікім драўляным даваенным будынку на 17 верасня, 53 пасля адсялення невядомыя павыломвалі літыя фігурныя поручні, якія вялі на другі паверх. Засталіся па іх толькі аскепкі.

Зусім недалёка ад яго, ва ўжо знесеным асабняку на 1 Мая, 17, даваенныя поручні на ўваходзе таямнічым чынам зніклі яшчэ напярэдадні зносу. Цікава, трапілі яны на склад нарыхтоўкі другаснай сыравіны альбо будуць упрыгожваць ужо сучасны, збудаваны з сілікатнай цэглы, катэдж?..

## Падлічыць страты за 20 гадоў...

«У такіх выпадках можна ўзбуджаць і крымінальныя справы, — мяркуе Ігар Трусаў, — напісаць у пракуратуру можа кожны, але наогул ініцыятарам меў бы быць інспектар па ахове культурнай спадчыны. Патрэбна група людзей, якая б параўнала стан 20-гадовай даўніны з сучасным і на фактах распавяла пра страты».

Мажліва, акурат такая параўнаўчая справаздача дапамагла б чыноўнікам больш цвяроза паглядзець на страты горада ў сферы малых архітэктурных формаў за апошнія 20 год. А мажлівы — чарговы скрадзены сярод белага дня ў самым цэнтры літы антыкварны балкон.

TV

## 16 ЛІСТАПАДА, НЯДЗЕЛЯ

### Беларусь 1

**07.05** «Маё каханне». Мастацкі фільм.
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Камедыйны серыял «Байкі Міцяя» (Украіна). 3. і 4-я серыі.
**10.50** «Пра ежу!» Кулінарны майстар-клас.
**11.25** Xxl woman tv. Жаночы часопіс.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**13.05** Таямніцы следства.
**13.40** Каробка перадач.
**14.15** Каб усё так geely! .
**14.50, 22.15** Вялікае тэлебачанне.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Вакол планеты.
**16.20** Тэлефільм АТН цыклу «Вялікі рэпартаж».
**16.55** Я магу! .
**17.15** «Мой любімы геній». Мастацкі фільм.
**21.00** Галоўны эфір.
**21.55** Навіны надвор'я.
**22.25** «Сінія як мора вочы». Мастацкі фільм.
**00.15** Камедыйны серыял «Байкі Міцяя» (Украіна). 3. і 4-я серыі.

### АНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі. Пін-код».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.40** «Фазэнда».
**11.10** Шоу-гульня «ТБ-таксі».
**11.35** «Брэйн-рынг».
**12.40** «Ералаш».
**14.15** «Я люблю Беларусь».
**15.25** Музычны фестываль.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Музычны фестываль.
**17.50** Тэатр эстрады.
**20.00** Контуры.
**21.05** «Подых планеты».
**21.40** «Леднікова перыяд».
**00.05** «Брыльянтавая рука». Мастацкі фільм.

### СТВ

**06.05** «Студэнты 2». Серыял.
**07.40** Тэлечасопіс «Аўтапанарама».
**08.00** «Эль Грэка». Мастацкі фільм.
**10.00** «Вялікі сняданак».
**10.40** «Тэрыторыя памылак».
**12.30** «Добры дзень, доктар».
**13.05** «Ганна Чапман і яе мужчыны».
**14.10** Фільм «Канец аперацыі» Рэзідэнт «.
**15.35** «Глядзець усім!» .
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** Канцэрт Міхаіла Задорнава.
**17.45** Тэлечасопіс «Аўтапанарама».
**18.15** СТВ прадстаўляе: вячэрні шоў «На тым жа месцы ў той жа час».
**19.30** «Тыдзень».
**20.40** «Неверагоднае каханне». Мастацкі фільм.
**00.1** Пякельная кухня.
**00.40** «Целаахоўнік 2: Адважны самурай». Мастацкі фільм.

### Беларусь 2

**06.55** Вышэй за дах.
**07.30** «Генры Пул ўжо тут». Мастацкі фільм.
**09.20** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**10.35** «Fitnews». Праграма пра прыгажосць і здароўе.
**11.15** Тэлебарометр.
**11.20** Камедыйны серыял «Універ. Новы інтэрнат» (Расія).
**12.30** «Турыст».
**13.20** «Мама - дэтэктыў». Серыял.
**15.50** Вострасюжэтны баявік «Хуткасць 2: Аўтапілот». (ЗША).
**17.35** «Comedy Баттл. Без межаў». Забаўляльная шоу-праграма (Расія).
**18.40** «Халі-галі». Скетч-шоў.
**19.15** Суперлато.
**20.05** Кіпень.
**20.25** Тэлебарометр.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** Кена.
**21.15** Цела чалавека.
**22.55** Перазагрузка.
**21.45** Камедыйны серыял «Універ. Новы інтэрнат» (Расія).
**23.40** «Генры Пул ўжо тут». Мастацкі фільм.
**01.15** «Сустрэча з ...».

### Беларусь 3

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.15** «Галасы з мінулага». Да 100-годдзя з дня нараджэння заслужанага работніка культуры Рэспублікі Беларусь, беларускага перакладчыка Язэпа Семяжона.
**08.20** Серыял. «Робін з Шэрвуда». 11-я - 13-я серыі (Вялікабрытанія, 1984-1986 гг.).
**10.55** «Подых струн». Музычная праграма. Госць: Піт Паўлаў.
**11.35** «Наперад у мінулае».
**12.00** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**12.55** «Калейдаскоп».
**13.10** «Галасы з мінулага». Да 100-годдзя з дня нараджэння заслужанага работніка культуры Рэспублікі Беларусь, беларускага перакладчыка Язэпа Семяжона.
**13.15** «Навукаманія». Гарачая галіна.
**13.45** «Пра кінарэжысёра..» Фільм-партрэт кінарэжысёра А.Карпава-старэйшага.
**14.15** «Я прыйду...» Вечар памяці Віктара Вуячыча.
**15.15** «Калейдаскоп».
**15.30** «Галасы з мінулага». Да 100-годдзя з дня нараджэння заслужанага работніка культуры Рэспублікі Беларусь, беларускага перакладчыка Язэпа Семяжона.
**15.35** «Старыя казкі». Гісторыя стварэння фільма «Прададзены смех».
**16.00** «Прададзены смех». Музычны фільм. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1981 г.).
**18.20** «Культпрасвет».
**18.55** «Агідныя, брудныя, злосныя». Камедыя (Італія, 1976 г.).
**20.45** «Калыханка».
**21.20** «Очарована, околдована..» Канцэрт заслужанага артыста Расіі Івана Бяседзіна. Часткі 1-я і 2-я.
**22.50** «Культпрасвет».
**23.25** «Дыхайце эканомна». Тэлеспектакль па п'есе Андрэя Макаёнка.
**02.00** «Калейдаскоп».
**02.10** «Галасы з мінулага». Да 100-годдзя з дня нараджэння заслужанага работніка культуры Рэспублікі Беларусь, беларускага перакладчыка Язэпа Семяжона.

### Беларусь 5

**07.00** PRO спорт. Навіны.
**08.00** Гандбол. SEHA-ліга. БГК ім. Мяшкова (Беларусь) - «Заграб» (Харватыя).
**09.30** Футбол. Кваліфікацыя.
**10.05** Футбол. Іспанія - Беларусь.
**12.00** Футбол. Фінал. Германія - Аргенціна.
**15.05** Баскетбол. Адзіная Ліга ВТБ. «Енісей» (Краснаярск) - Цмокі (Мінск).
**16.55** Хакей. «Металург» (Жлобін) - «Шахцёр» (Салігорск).
**19.15** Тэніс. Турнір ВТА. Фінал.
**20.55** Баскетбол. Адзіная Ліга ВТБ. «Енісей» (Краснаярск) - Цмокі (Мінск).
**22.30** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Відэачасопіс.
**23.00** Тэніс. Кубак Паўлава. Адзіночны разрад. Жанчыны.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Аб'ектыў.
**07.10** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**07.45** «Мікі Моль і Страшны Плашч», анімацыйны фільм.
**08.15** Казкі для дзетак: «Польскія казкі і паданні».
**08.30** Фітнес-шмітнес.
**08.50** Маю правы (юрыдычная праграма).
**09.10** Два на два (тэледыскусія): Зміцер Лукашук і Аляксандр Папко.
**09.45** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**10.00** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.30** МакраФон: Канцэрт «АВ-ВА-аркестру»: ч. 2.
**10.55** Зона «Свабоды».
**11.30** «Мікі Моль і Страшны Плашч», анімацыйны фільм.
**12.00** «Польскія казкі і паданні».
**12.15** «Mad Men. Утрапёныя-ІІ», серыял.
**13.00** «Час гонару», серыял.
**13.50** «Я люблю дэмакратыю. Германія напярэдадні выбараў», дак. фільм, 2013 г., Францыя.
**14.45** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**15.10** Чорным па белым (культурніцкая праграма).
**15.35** «Надзея», маст. фільм, 2008 г., Польшча.
**17.15** Форум (ток-шоу): Незалежнасць – гэта...
**18.00** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**18.35** «Ранча», серыял.
**19.20** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**19.50** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Рамуальд Траўгут.
**20.00** Эксперт (сатырычная праграма).
**20.25** Дакументальная гадзіна: «Неабвешчаная вайна. Нататкі дакументаліста», дак. фільм, 2014 г., Украіна.
**21.15** Фільматэка майстроў: «Гётэ!», маст. фільм, 2010 г., Германія.
**22.55** «Я люблю дэмакратыю. Германія напярэдадні выбараў», дак. фільм, 2013 г., Францыя.
**23.50** «Лобатамія», дак. фільм, 2010 г., Беларусь: ч. 2.

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, афарміўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 301274 1108019 у аддзяленні №53 9 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153 10073 9. Адрас банка: 22 0004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 22 0113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема ______ ч. _____ мин.
Подпись

# Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 3000 руб., аднаго месяца — 12000 руб.
**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ПАДТРЫМКУ!**
«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл: (8 029) 651-21-12.**



КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

| Счет получателя | 3012741108019 | Лицевой счет | Код 739 |
|---|---|---|---|
| УНП* | 190790926 | | |

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |

Период подписки указывает абонент

Плательщик

Пеня ________
Всего ________

Кассир

# Новы ўрад Швецыі ўздыме падаткі

**Што з сябе ўяўляе новы ўрад Швецыі? Чаго чакаць ад гэтай краіны ў бліжэйшай будучыні? Пра гэта Алег Новікаў размаўляе з былым лідарам шведскай урадавай партыі «Зялёныя», дырэктаркай аналітычнага агенцтва «Cogito» Лотай Хёндстарм.**

***— У адрозненні ад папярэдняга кабінету, новы ўрад фармуюць левыя партыі — «Зялёныя» і сацыял-дэмакраты, якіх у парламенце таксама падтрымліваюць экс-камуністы. Чым у прынцыповых момантах будзе адрозніваецца новы ўрад?***

— Відавочна, што больш важнае месца ва ўрадавым дыскурсе зараз адыгрывае сацыяльная праблематыка, тэма гендарнай роўнасці, барацьбы з расізмам. Акрамя таго, сябры новага кабінету нават колерам скуры часам не вельмі не падобныя на ўздзельнікаў былога. Тут больш прадстаўнікоў этнічных меншасцяў, што незвычайна нават для вельмі талерантнай Швецыі. Магчыма таму новы «зялёны» міністр будаўніцтва, этнічны турак Мехмет Каплан — цяпер адна з галоўных мішэняў правай жоўтай прэсы. Яго абвінавачваюць у тым, што ён, быццам, тайна падтрымлівае кантакты з ісламістамі. Што тычыцца іншых цікавых людзей, то адназначу чарнаскурага міністра культуры, якая была вядучай шоу. Напэўна, арыгіналам выглядае і наш прэм'ер-міністр, які пачынаў сваю кар'еру як звычайны зваршчык.

***— Якія трэнды назіраюцца ў лагеры апазіцыі пасля правалу на выбарах?***

— Як вядома, папярэдні шведскі ўрад складаўся з чатырох правацэнтрысцкіх партый, галоўную ролю сярод якіх гуляла Памяркоўная кааліцыйная партыя. Па сутнасці, яна цяпер з'яўляецца галоўнай апазіцыйная сілай. Падаецца, пакуль аналізу прычын правалу на выбарах там не робяць. Галоўным чынам усё спісваецца на дзіўнае спалучэнне выпадковых фактараў, якія прывялі да электаральнай драмы. Аднак з улікам таго, што ў прэсе ўсё часцей гучыць імя палітыка Ганны Кінберг Батра, я падазраю, што не выключана ратацыя кіраўніцтва на яе карысць. Праўда, не зразумела, як гэта паўплывае на профіль апазіцыі. Ніякіх сістэмных зменаў у схеме прапаганды з боку апазіцыі пакуль няма.




**Бюджэт за кошт новай падатковай сістэмы атрымае дадатковыя 3 мільярды еўра, якія пойдуць на падтрымку сацыяльнага сектара, стварэнне новых працоўных месцаў і скарачэнне небяспечных для клімату выкідаў у атмасферу**

***— Ходзяць чуткі, што ўльтраправая партыя «Шведскія дэмакраты», якая атрымала амаль 13 працэнтаў галасоў, можа стаць ядром апазіцыі.***

— Мяркую, што такой пагрозы няма. Уздым «Шведскіх дэмакратаў» больш звязаны з расчараваннем у правацэнтрысцкай апазіцыі, якая ўсім надакучыла з 2006 года. Аднак не выключана, што за кошт знаходжання ў апазіцыі Памяркоўная кааліцыйная партыя і яе саюзнікі рэабілітуюцца ў вачах выбаршчыкаў. Крытыкаваць заўжды прасцей. Больш непакоіць тое, што правацэнтрысты ўсё часцей актыўна падтрымліваюць антыміграцыйныя лозунгі. Праўда, гэта характэрна і для тых, хто заўсёды галасаваў за сацыял-дэмакратаў. Такую з'яву можна растлумачыць крызісам сацыяльнай дзяржавы ў Швецыі і наіўнай думкай пра тое, што адказнасць за гэта нясуць выключна іншаземцы.

***— Ці збіраецца левая кааліцыя выратоўваць шведскую сацыяльную дзяржаву?***

— Зразумела. Найбольш важным крокам у гэтым накірунку стаў праект бюджэту на наступны год, у якім прапаноўваецца радыкальна ўзняць падаткі. Калі праект атрымае падтрымку ў парламенце, то бюджэт за кошт новай падатковай сістэмы атрымае дадатковыя 3 мільярды еўра, якія пойдуць на падтрымку сацыяльнага сектара, стварэнне новых працоўных месцаў і скарачэнне небяспечных для клімату выкідаў у атмасферу. Плануецца ў тым ліку ўзняць дапамогу для беспрацоўных, колькасць якіх давесці да 4 працэнтаў у 2020 годзе (зараз беспрацоўных каля 7,4 працэнта). На думку апазіцыі, падобны план абсалютна не рэальны, здольны выклікаць праблемы ў механізме працы ўсёй эканамічнай мадэлі, што прывядзе да датэрміновых выбараў. Аднак наўрад ці новы ўрад будзе браць пад увагу такую крытыку. Новая падатковая палітыка была адной з ягоных фішак падчас выбараў.

***— Як вядома, на апошніх выбарах партыя «Фемінсцкая ініцыятыва» атрымала амаль 4 працэнты. Якая будучыня ў гэтай палітычнай сілы? Ці не паўторыць яна лёс Партыі піратаў, якая таксама гучна заявіла пра сябе некалькі год таму на Еўравыбарах, аднак цяпер знаходзіцца ў крызісе?***

— Наўрад ці гісторыя феміністак стане рымейкам прыгод Партыі піратаў. «Піраты» па сутнасці мелі вузкую сацыяльную базу — моладзь буйных гарадоў. Яны таксама ўвогуле не займаліся муніцыпальнымі праблемамі, робячы стаўку на лозунг пра вольны доступ да інтэрнэту і правы вольна качаць адтуль усё, што заўгодна. З феміністкамі іншая сітуацыя. У іх каля 300 мясцовых дэпутатаў, плюс у партыі прадстаўнікі ўсіх класаў Швецыі. Будучыня партыі, аднак, не зразумелая з-за падабенства праграм феміністак і «Зялёных». Таму ёсць пагроза, што экологі проста інтэгруюць гэты праект. Прынамсі, ёсць практыка, калі фракцыі зялёных у рэгіёнах актыўна прапануюць феміністкам разам працаваць над стратэгіяй гендарнай роўнасці і г.д.

***— Пры Карле Більдзе (былы дырэктар шведскага МЗС) дыпламатыя вашай краіны была вельмі актыўнай ва Усходняй Еўропе. Першай сімвалічнай акцыяй новага кіраўніка МЗС Швецыі стала прызнанне незалежнасці Палесціны. Ці значыць гэта, што Усходняя Еўропа больш не будзе ў топе прыярытэтаў шведскай дыпламатыі?***

— Не думаю, хаця сённяшні міністр замежных спраў і працавала больш у Трэцім свеце, у цяперашняй шведскай левай эліце ёсць людзі, якія цікавяцца ўсходнім еўрапейскім вектарам. Для таго ж сацыял-дэмакратычнага Фонду імя Улафа Пальме гэта ледзь не галоўны накірунак працы. У дадатак украінскія падзеі вельмі важныя для ўсіх краін Еўропы, і таму так ці інакш мы павінны вельмі ўважліва сачыць за працэсамі ва Усходняй Еўропе і дапамагаць развіццю грамадзянскай супольнасці.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Візіт прэм'ер-міністра Літвы ў Беларусь не з'яўляецца чымсьці выключным, аднак Літва не павінна губляць пільнасці і не можа лічыць Мінск добразычлівым суседам. Афіцыйны Мінск – адкрыты і добразычлівы сусед – часам супрацоўніцтва нават тлумачыцца лейтматывамі Вялікага Княства Літоўскага. Усё ж мы не можам губляць пільнасці і заплюшчваць вочы на тое, што адбываецца ў Беларусі, – пра гэта сведчыць і нядаўна апублікаваная навіна аб будучых расійскіх самалётах у Бабруйску. І гэта толькі адзін прыклад таго, хто сапраўдны саюзнік Аляксандра Лукашэнкі.

**«Delfi» (Літва)**

Сумневы ў гатоўнасці беларускіх уладаў да сур'ёзных структурных рэформаў выказваюць не толькі незалежныя эксперты. Галоўная падстава – негатоўнасць да зменаў прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі. Мясцовыя аналітыкі сцвярджаюць, што ў яго нароўні з адсутнасцю рынкавага мыслення прысутнічае страх страты кіравання, калі эканоміка стане рынкавай, і, адпаведна, страты ўлады. Тым больш, рэформы, заўсёды вядуць да зніжэння ўзроўню жыцця, а значыць, немагчымыя ў наступным годзе – годзе прэзідэнцкіх выбараў. Прэм'ер-міністр Міхаіл Мясніковіч падчас сустрэчы з місіяй МВФ таксама не змог выразна артыкуляваць якія-небудзь гарантыі. Больш за тое, ён заявіў, што беларускай эканоміцы не вельмі і патрэбныя грошы. Адзінае лагічнае тлумачэнне, якое эксперты змаглі даць такой пазіцыі кіраўніка ўрада, – і так высокая закрэдытаванасць Беларусі. Сукупны знешні доўг краіны перавысіў 40 мільярдаў долараў, што набліжаецца да крытычнага ўзроўню 60% ВУП.

**«Независимая газета» (Расія)**

У размовах пра Беларусь як пра запаведнік сацыялізму ёсць даволі моцнае перабольшанне. Капіталістычныя элементы ў Мінску бачныя няўзброеным вокам. Але ў прынцыпе, для чалавека, які вырас у 1980-я, Беларусь прапануе шмат добра забытага старога. Магчыма, цяперашняя Беларусь – варыянт таго, чым стаў бы Савецкі Саюз, калі б яму дазволілі развівацца эвалюцыйным чынам, без развалу, з паступовым урастаннем элементаў новага ладу. Так што, атрымліваецца, Беларусь – рай для аматараў мінулага? Не і не! Жыць у гэтай краіне не так ужо проста. Па меншай меры, узровень коштаў у крамах не дазваляе занадта расслабіцца. Знакамітая якасць беларускіх прадуктаў – напэўна, усё ж такі не міф. Але задарма гэта якасць спажыўцу не дастаецца.

**«Вести» (Украіна)**

У вачах Еўропы і ЗША Лукашэнка – дыктатар, таму літасці да яго не будзе. З гэтага не вынікае, што свет прызнае факт анексіі Беларусі Расіяй. Не прызнае. Але ад гэтага нічога не зменіцца. Не ў крыўду беларусам будзе сказана, але Беларусь як ваенная адзінка – гэта адсутнае звяно, пустое месца. Што будзе з гэтай краінай у сувязі з расійска-ўкраінскай вайной – пакінута на меркаванне расійскага генштаба. Калі паглядзець на карту, то Беларусь стратэгічна вельмі важная для атакі на Украіну. Паўнамаштабная вайна з Украінай немагчымая без парушэння беларускага суверэнітэту. Расійская армія, зразумела, будзе ўваходзіць ва Украіну, у тым ліку і праз Беларусь. Па ўзгадненні з Лукашэнкам ці насуперак яго волі – не мае значэння.

**«Odessa-daily» (Украіна)**

Беларусь не стане плацдармам для ваеннага нападу Расіі на Украіну. Нягледзячы на антызаходнюю рыторыку, Лукашэнка не пойдзе ва-банк і не стане канчаткова псаваць адносіны з Захадам, выступіўшы адзіным фронтам з Масквой. Тым не менш гульня беларускага лідара з Расіяй і Захадам, якая працягваецца ўжо некалькі гадоў, патрабуе пэўных саступак з боку Мінска. Таму і прынята рашэнне размясціць расійскую авіябазу пад Бабруйскам.

**«Voice of America» (ЗША)**




# Год без Мішы

Алег ПАНФІЛАЎ,
спецыяльна для НЧ

**Два гады таму на парламенцкіх выбарах у Грузіі адбылася ўнікальная падзея — упершыню за 21 год пасля распаду СССР прайшла бяскроўная перадача ўлады. На Захадзе гэта называецца дэмакратыя, а ў Грузіі — феномен.**

## «Пайшоў», «выгналі», «збег»

Праз год, у лістападзе 2013-га, чацвёртым прэзідэнтам Грузіі (пасля Гамсахудзіі, Шэварнадзэ і Саакашвілі) стаў Гіоргі Маргвелашвілі, прадстаўнік кааліцыі «Грузінская мара».

«Грузінская мара» складаецца з шасці карлікавых партый, якія раней не маглі выйграць ні адны парламенцкія выбары. Пасля абвяшчэння расійскім бізнэсмэнам Бідзінам Іванішвілі, што ён ідзе ў палітыку, вакол яго стоўпіліся людзі, які шчыра ненавідзяць рэфарматараў. Частка — паплечнікі нядаўна памерлага другога прэзідэнта Эдуарда Шэварнадзэ, іншыя — апазіцыянеры з рознымі поглядамі, уключаючы і відавочна прарасійскі настроеных людзей, якія бачаць будучыню Грузіі разам з Расіяй.

Усе гэтыя цяпер ужо былыя апазіцыянеры апошнія гады кіравання Саакашвілі ладзілі штогадовыя акцыі пратэсту, патрабаванні якіх дзіўным чынам супадалі з жаданнем Уладзіміра Пуціна.

Для расійскага прэзідэнта грузінскія рэфарматары былі як пятля на шыі. Поспехамі ў Грузіі захапляліся, у Тбілісі прыязджалі шматлікія ўрадавыя дэлегацыі з краін постсавецкай прасторы, некаторыя спрабавалі паўтарыць грузінскія поспехі. Рэфармаваная паліцыя ў Грузіі апынулася лепшай не толькі ў краінах былога СССР, але і ў свеце, адміністратыўнае рэфармаванне і аказанне паслуг для насельніцтва стала грузінскім ноў-хаў, істотна ад постсавецкіх адрозніваліся і рэформы аховы здароўя і адукацыі.

Уладзімір Пуцін усвядоміў небяспеку грузінскіх рэформаў для сваёй будучай імперыі яшчэ ў 2006 годзе. Ён увёў эмбарга грузінскага віна і мінеральнай вады, з Расіі пачалі дэпартаваць этнічных грузінаў, выпадкова быў узарваны газаправод, які забяспечваў Грузію расійскім газам. Грузія станавілася незалежнай краінай. І гэта вельмі не падабалася Расіі.

Асабліва пасля таго, як Грузія стала яшчэ і энергагенезалежнай, адмовіўшыся ад расійскага газу, купляючы больш танны азербайджанскі, выпрацоўваючы ўласную электраэнергію, якую цяпер прадае ў Краснадарскі край.

Нянавісць Пуціна да Грузіі стала рэальнай у 2007 годзе. Расійскі мільянер Бадры Патаркацышвілі, сябар і паплечнік Барыса Бярозаўскага, быў пасланы ў Тбілісі, каб правесці пераварот. Змяніць Саакашвілі не ўдалося, а Патаркацышвілі неўзабаве памёр у Лондане. У 2008 годзе было вырашана зрынуць Саакашвілі ўжо сілай — у жніўні пачалася акупацыя Грузіі сіламі 58-й расійскай арміі. Авантура не ўдалася.

Праз два гады ў Грузіі зноў пачаліся акцыі прарасійскай апазіцыі. У 2011 годзе — чарговыя акцыі, ужо пад кіраўніцтвам Ніно Бурджанадзэ, якая да гэтага некалькі разоў наведвала Маскву і мела асабістыя сустрэчы з Пуціным. Набор прэтэнзій да Саакашвілі рос за кошт плётак і чутак, з задавальненнем распаўсюджваўся расійскімі СМІ.

Нарэшце, у лістападзе 2011 года на палітычнай арэне раптам з'явіўся Бідзіна Іванішвілі, які прадстаўляўся мільярдэрам. Ён пакінуў Расію ў 2005 годзе, атачыў сябе шматлікай аховай і да 2011 года ў твар яго ведала толькі абмежаванае кола людзей, а 99 адсоткаў насельніцтва пра яго толькі чулі, абмяркоўваючы, зноў з падачы расійскіх СМІ, міфы аб яго багацці і мецэнацкай дзейнасці. Хаця да гэтага часу невядома, наколькі ён багаты і адкуль з'явіліся яго грошы.

## Смарагдавы горад за калючым дротам

Бідзіна Іванішвілі за тры месяцы стварыў кааліцыю «Грузінская мара». Перадвыбарчыя абяцанні сапраўды былі падобныя на мары — пенсіі падымуць у тры-чатыры разы, тарыфы на газ і электрычнасць знізяць, бензін патаннее, іпатэку кампенсуюць, пабудуюць сто заводаў. Нічога з абяцанага не выканана. У краіне пачаўся калапс: з аднаго боку, тыя, хто прагаласаваў за «Грузінскую мару», зразумелі, што іх падманулі, з другога — на Каўказе не прынята прызнавацца ва ўласным ідыятызме.

Паміж парламенцкімі выбарамі, калі «Грузінская мара» атрымала большасць месцаў, але так і не змагла атрымаць дастаткова галасоў для змены Канстытуцыі або прыняцця канстытуцыйных законаў, і прэзідэнцкімі прайшоў роўна год. Міхаіл Саакашвілі быў прэзідэнтам у краіне, дзе ўрад ужо ўзначальваў Бідзіна Іванішвілі.

Гэта быў дзіўны год адкрыцця і расчараванняў. Раптам аказалася, што Іванішвілі, якога вельмі мала хто бачыў і чуў, дрэнна гаворыць па-грузінску, прыкладна гэтак жа па-руску і зусім не гаворыць па-англійску. Прыкладна такога ж узроўню яго веды ў эканоміцы і кіраванні дзяржавай. Седзячы каля тэлевізараў насельніцтва рагатала ад публічных выступленняў Іванішвілі, заадно падлічваючы страты ў эканоміцы.

Грузія адрозніваецца ад усіх постсавецкіх краін не толькі тым, што правяла прызнаныя ва ўсім свеце рэформы, але і неверагодным узроўнем свабоды. Канстытуцыя краіны забараняе стварэнне і дзейнасць дзяржаўных СМІ, актывістам грамадзянскай супольнасці і палітычным партыям няма неабходнасці прасіць дазвол на правядзенне мітынгаў, шэсцяў і іншых акцый, а НДА сочаць за кожным крокам улады і бюджэтнымі выдаткамі. У выніку, скандал ішоў за скандалам, грамадства даведалася, што «Грузінская мара» вельмі падобная на КПСС, калі жыццё чыноўнікаў новай улады занята атрыманнем прэмій, падвышаных заробкаў, уладкаваннем сваякоў на працу, пераследам палітычных апанентаў.

«Смарагдавы горад», створаны ў свядомасці выбаршчыкаў у 2012 годзе, стаў ператварацца з міфа ў рэальную казку, у якой гаворыцца — «прынясі тое, не ведаю што». Адначасова пачаў разбурацца і міф пра мецэната Іванішвілі, які абяцаў усё, пра што марыла насельніцтва, але ў выніку людзі не атрымалі нічога. Пасля абрання ў 2013 годзе прэзідэнтам Гіоргі Маргвелашвілі, Іванішвілі сышоў з пасады прэм'ер-міністра, прызначыўшы замест сябе свайго бліжэйшага паплечніка Іраклі Гарыбашвілі, які таксама не меў ніякага вопыту публічнай палітыкі. Ва ўрадзе Іванішвілі ён быў кіраўніком МУС, якое лічыцца ў Грузіі самым уплывовым сілавым ведамствам.

Адстаўка Іванішвілі спарадзіла шмат чутак і здагадак. Але той не стамляўся паўтараць, што партыя Саакашвілі павінна знікнуць з палітычнай арэны Грузіі. Адначасова Іванішвілі рабіў усялякія рэверансы ў бок Крамля, прапанаваўшы гандляваць у Расіі віном, мінеральнай вадой і садавінай. Крэмль не супраціўляўся — прыняў і віно, і ваду.

Тым не менш, эканамічныя праблемы ў Грузіі назапашваліся ўсе гэтыя два гады. На 46 тысяч чалавек павялічылася беспрацоўе, цэны на неабходныя прадукты харчавання выраслі ў паўтара-два разы, інвестары, якія раней укладвалі велізарныя грошы, адмовіліся працягваць свае праекты ў Грузіі. Усё гэта на фоне абяцанняў салодкага жыцця і будаўніцтва 100 заводаў стала здавацца насмешкай. Перад зацвярджэннем дзяржаўнага бюджэту аказалася, што дэфіцыт за два гады ўтварыўся ў 1 мільярд 200 мільёнаў лары, што складае 7–8 працэнтаў ад агульнага аб'ёму гадавога бюджэту. Да гэтага варта дадаць узрослы ўзровень крыміналу, а таксама паводзіны Расіі, чые памежнікі знаходзяцца на тэрыторыі акупаванай «Паўднёвай Асеціі» (па Канстытуцыі Грузіі, гэтая тэрыторыя называецца Цхінвальскі рэгіён). Усе гэтыя два гады яны самавольна перасоўвалі «мяжу», адхопліваючы ад Грузіі ўсё больш і больш зямлі.

## Еўрапейская будучыня

У любой іншай сістэме з традыцыямі постсавецкай дыктатуры, лёс Грузіі быў б прадвызначаны, на што, уласна, і разлічвалі ў Крамлі. Але з 2008 года, калі на рэферэндуме жыхары Грузіі прагаласавалі за еўраінтэграцыю і сяброўства ў NATO, колькасць людзей, якія аддаюць перавагу еўрапейскай будучыні, павялічылася і складае больш за 70–80 адсоткаў адпаведна. Па ўсёй бачнасці, гэта галоўная перашкода дэкларыванай «Грузінскай марай» палітыкі збліжэння з Расіяй. У сваю чаргу, і Крэмль насцярожана разглядае адносіны з Грузіяй, разумеючы, што насельніцтва не дарує акупацыі Абхазіі і «Паўднёвай Асеціі», дэпартацыі грузін з Расіі ў 2006 годзе, інфармацыйнай вайны, якая доўжыцца ўсе гэтыя гады.

Як непрыемнасць для Расіі можна расцэньваць і адсутнасць у Грузіі «пятай калоны» і антырускіх настрояў. Антыкрамлёўскія — існуюць, але антырускіх няма і быць не можа: тыя этнічныя рускія, што жывуць у Грузіі з пачатку XIX стагоддзя, настолькі інтэграваліся, што спробы настроіць іх супраць грузінаў заўсёды правальваліся. Небяспеку хутчэй уяўляюць прарасійскія палітыкі і НДА, з відавочна прарасійскімі поглядамі, але іх няшмат, яны складаюць усяго некалькі адсоткаў насельніцтва.

Ці зможа «Грузінская мара» змяніць грамадства? Хутчэй за ўсё, не. Па-першае, праведзеныя за 9 гадоў рэформы і створаная сістэма дзяржаўнага кіравання не дае шанцаў вярнуць Грузію пад расійскі ўплыў. Насельніцтва прызвычаілася да таго, што чыноўнікі не бяруць хабару, і любы такі выпадак расцэньваецца як цяжкае злачынства. Сістэма публічнага сэрвісу, калі любы грамадзянін без чэргаў і «падарункаў» можа хутка аформіць куплю-продаж нерухомасці, зарэгістраваць НДА ці палітычную партыю, хутка атрымаць пашпарт або зарэгістраваць шлюб — даброты, ад якіх ніхто ў Грузіі не хоча пазбавіцца, а любы замах на гэта расцэньваецца як злачынства супраць свабоды грамадзян.

Калі Грузію параўноўваць з чалавекам, ён, безумоўна, — заўзяты рамантык. Грузія перажыла расійскую акупацыю ў 1801 годзе, захоп Чырвонай Арміяй у 1921 годзе, анексію Абхазіі і «Паўднёвай Асеціі», вайну 2008 года, захоўваючы прагу да свабоды. Такой яна і застанецца. Зразумець унутраную палітыку маленькай, але з багатай гісторыяй краіны не пад сілу нават тым, хто ў ёй жыве. Самае галоўнае — у Грузіі сваю будучыню вырашае сам народ, які перажыў за сваю гісторыю дзясяткі заваёўнікаў. Сёння шмат хто ўсведамляе памылку выбару два гады таму, але не адчайваецца. Прыйдзе час выбараў — і памылка будзе выпраўлена. А Міша, «батона прэзідэнта», застанецца ў гісторыі чалавекам, які дапамог маленькай краіне ўсвядоміць сваё месца ў свеце.

***

У Грузіі прынята называць людзей па імёнах, у тым ліку і ў скарачэнні, якое выкарыстоўваецца ў сям'і. Таму для ўсіх грамадзян Міхаіл Саакашвілі — проста Міша. Афіцыйна, вядома, «батона Міша» — «спадар Міша», зусім афіцыйна — «батона прэзідэнта». Міхаіл Саакашвілі цяпер жыве ў ЗША, дзе выкладае ў Школе права і дыпламатыі імя Флётчара пры Універсітэце Тафтса. Пасля Майдана па згодзе новага ўрада Украіны Саакашвілі запрасіў частку сваёй каманды рэфарматараў, якія прапанавалі свае рэформы ўжо для Кіева.




# Беларускі фармат данбаскіх выбараў

**2 лістапада на тэрыторыі самаабвешчаных Данецкай і Луганскай Народных Рэспублік адбыліся выбары нікім не прызнаных кіраўнікоў і парламентаў. Пра іх прычыны, ход і наступствы Алег Новікаў размаўляе з кіеўскім журналістам Алесем Шаўчэнкам.**

***— Чаму ў Маскве (відавочна, што ініцыятарам правядзення так званых выбараў была пуцінская адміністрацыя) вырашылі пайсці на выбары 2 лістапада? Хіба па мінскіх пагадненнях іх нельга было правесці ў снежні?***

— Думаю, перад намі гульня Масквы. Яна паказвае ў прынцыпе тое, што трэба ЕС і ЗША, але акуратна, не пераходзячы мяжу і правакуючы пры гэтым Кіеў перайсці яе. Пасыл тут наступны — маўляў, якая розніца, выбары адбыліся, дробныя дэталі не істотныя. Цяпер дамаўляйцеся. Мы вунь нават па газу зніжку зробім. Не хочаце? Мы хочам, данецкія хочуць. ЕС нервуецца. Значыць: «Пеця — дрэнны, не здольны да перамоваў». Акрамя таго, выбары дадаюць своеасаблівую легітымнасці рэспублікам. Як сфармуляваў Лягін (кіраўнік ЦВК самаабвешчанай ДНР): «Галоўная задача гэтых выбараў — легітымізацыя ўлады ў рэспубліцы. Мы павінны паказаць свету, што наша кіраўніцтва абранае народам, а не захапіла ўладу сілай».

***— Калі меркаваць па рэпартажах з участкаў, каб прагаласаваць, выстройваліся чэргі. У Кіеве на гэта кажуць, што людзей прыцягвалі да скрыняў таннай гароднінай і прадуктамі. Таксама кажуць, што эфектная карцінка тлумачыцца скарачэннем колькасці кропак для галасавання. Што вы пра гэта думаеце?***

— Калі б ніхто не хацеў галасаваць, дык пры любой колькасці ўчасткаў на іх быў бы мізер людзей. Увогуле, усялякія кірмашы на ўчастках — яшчэ савецкая традыцыя. Такія кірмашы танных прадуктаў — частыя госці на выбарах у незалежнай Украіне. Акрамя таго, нічога дрэннага ў тым, каб у прыфрантавых гарадах, дзе мноства праблем, прыйсці і купіць танную ежу, я не бачу. Праблема толькі ў галовах кіеўскага сярэдняга класа, які не разумее мясцовага менталітэту і палітычнай культуры. Людзі сапраўды масава галасавалі, аднак не за лідараў сепаратыстаў, а супраць Кіева. Можна разглядаць гэта як праяву ідыятызму, або, наадварот, як пазіцыю, што грунтуецца на доказах і аргументах, аднак кіеўскую ўладу на Данбасе сапраўды шмат хто не любіць.

***— Хто непасрэдна браў удзел у так званых выбарах у абодвух самаабвешчаных рэспубліках і хто стаў пераможцам?***

**Масква адмовілася ад ідэі ўніфікацыі Данбасу, стварэння Навароссіі, цалкам аддаўшы ўладу і ініцыятыву ў рукі мясцовых. Хутчэй за ўсё, для Крамля выбары 2 лістапада — нейкі прамежкавы этап рэалізацыі больш глабальнага праекту**

— У ДНР у парламент балатаваліся 2 структуры (пратапартыі, афіцыйна грамадскія арганізацыі). Рух «Данецкая рэспубліка» (Захарчанка, што таксама стаў прэзідэнтам), за які прагаласавала 662 тысячы чалавек, і «Свабодны Данбас», які атрымаў падтрымку амаль 307 тысяч. Палітычныя праграмы «Данецкай рэспублікі» і «Свабоднага Данбаса» засталіся інтрыгай, як, зрэшты, і іх перадвыбарчыя спісы: выбаркам абмежаваўся публікацыяй толькі першых троек кандыдатаў. У ЛНР у выбарах удзельнічалі 3 пратапартыі. Набраўшы 69,42% галасоў, перамог рух «Мір Луганшчыне», чый спіс узначальвае абраны ў той жа дзень лідарам рэспублікі бізнэсовец Ігар Платніцкі. Як бачым, выбары вельмі арыгінальныя. Таму трэба глядзець не на лічбы, а шукаць сутнасць. Яна наступная: выбары — чарговы этап узмацнення ў Данбасе ўплыву Крамля і крышталізацыі, паляпшэння там кіравання, эканомікі, звужэння палітычнага поля (экстрэмісты Маскве не патрэбныя). Але для мясцовага насельніцтва гэта пакуль плюс — жыццё хоць неяк наладзіцца.

***— Ці былі на данбаскіх выбарах адмовы ў рэгістрацыі і фальсіфікацыі?***

— ЦВК ДНР адзін за адным адмаўляў у рэгістрацыі руху «Апора», «Саюзу дэсантнікаў», блоку «Адзіная Расія», руху «Наваросія», Камуністычнай партыі. ЦВК ЛНР таксама не пусціў шэраг палітсіл на выбары. Думаю, імёны пераможцаў былі вядомыя загадзя. Але самае цікавае, што такі «беларускі» фармат выбараў вельмі падабаўся тутэйшаму электарату.

***— Як ставіліся так званыя палявыя камандзіры да выбараў?***

— Уласна, павышэнне кіравальнасці гэтых тэрыторый, падаўленне фрондаў палявых камандзіраў, спробы стварыць уласныя «рады камандзіраў» — гэта было адной з важных мэтаў выбараў. Улада, пры падтрымцы Масквы, усё больш апынаецца ў руках пэўных фракцый, выбары даюць ім «легітымнасць». Хто гэтым незадаволены, таго выкідаюць з палітычнага поля, праўда, не рэзка. Напрыклад, уздзейнічаюць праз допуск да гуманітарных паставак.

***— Як ставяцца да гэтых выбараў тыя жыхары Данбаса, што жывуць на тэрыторыях, якія не кантралююцца сепаратыстамі?***

— ЦВК ДНР і ЛНР спрабавалі арганізаваць для жыхароў «украінскага» Данбасу нешта накшталт галасавання праз інтэрнэт. Прагаласавала калі 5 тысяч чалавек, хаця цяжка сказаць, наколькі гэта праўда. Аднак, думаю, самы вялікі інтарэс выбары ў Данбасе выклікалі сярод элітаў суседніх з ДНР і ЛНР рэгіёнаў. Масква адмовілася ад ідэі ўніфікацыі Данбасу, стварэння Навароссіі, цалкам аддаўшы ўладу і ініцыятыву ў рукі мясцовых. Хутчэй за ўсё, для Крамля выбары 2 лістапада — нейкі прамежкавы этап рэалізацыі больш глабальнага праекту.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Гурбангулы Бердымухамедаў



Прэзідэнт Туркменістана нарэшце дарваўся да тэатральнай сцэны. Напрыканцы кастрычніка ў Галоўным драматычным тэатры Туркменістана адбылася прэм'ера спектакля, што быў створаны на аснове рамана Бердымухамедава. Раман «Döwlet guşy» прысвечаны бацьку туркменскага прэзідэнта — Мялікгулы Бердымухамедаву і распавядае пра яго маладосць, якая прыйшлася на гады Другой сусветнай вайны. Па звестках афіцыёзу, на прэм'ерным паказе быў аншлаг, які забяспечылі члены ўрада, кіраўнікі парламента, міністэрстваў і ведамстваў, дыпламатычных місій, акрэдытаваных у Туркменістане, паслы Туркменістана за мяжой, дзеячы культуры і мастацтва, прадстаўнікі СМІ і грамадскіх арганізацый, творчая моладзь і г.д. Натуральна, п'есу чакаў шалёны трыумф. Публіка некалькі разоў выклікала акцёраў на біс. Не выключна, што гэта толькі пачатак тэатральных адаптацый твораў Гурбангулы, які, дарэчы, па прафесіі стаматолаг. За апошні час ён напісаў ужо тры кнігі, праўда, сапраўдным аўтарам тых кніг усе лічаць рэдактара аднаго з ашхабадскіх часопісаў.

### Франк Франц



35-гадовы псіхатэрапеўт з Саара перамог на выбарах старшыні Нацыянал-дэмакратычнай партыі Германіі (NPD) — вядучай неанацысцкай партыі ў ФРГ. Франц прыйшоў да партыйнага штурвалу ў складаны для арганізацыі час. У жніўні NPD не трапіла ў зямельны парламент Саксоніі, страціўшы апошні бастыён карычневых пасля ўздыму канца 1990-х гадоў. Саксонскія і іншыя структуры партыі ахвотна пераходзяць у шэрагі партыі «Альтэрнатыва для Германіі» — папулісцкага еўрафобскага праекту, які здолеў прайсці ў шэраг рэгіянальных парламентаў і стварыў фракцыю ў Еўрапарламенце. Таму новаму лідару NPD давядзецца вырашаць шмат праблем, у тым ліку і шукаць больш прываблівы вобраз партыі. Новы старшыня збіраецца пачаць з зачысткі партыі ад фанатаў Гітлера, якія, на яго думку, засталіся ў часах Другой сусветнай вайны. Дарэчы, з'езд NPD, на якім Франк Франц стаў лідарам, прыйшоўся на 50-ю гадавіну стварэння партыі.

### Крысціна Кіршнер



Прэзідэнт Аргенціны Крысціна Фернандэс дэ Кіршнер 3 лістапада была шпіталізаваная з высокай тэмпературай і падазрэннем на інфекцыю. Пра гэта паведамілі асабістыя лекары кіраўніка дзяржавы. Падрабязнасцяў пра захворванне і самаадчуванні аргентынскага лідара пакуль няма. «Што тычыцца здароўя прэзідэнта, то я нагадаю аб афіцыйнай заяве, у якой гаворыцца пра інфекцыю і высокую тэмпературу. Учора я двойчы размаўляў з прэзідэнтам — апоўдні і перад тым, як яе шпіталізавалі», — распавёў кіраўнік Кабміна Аргенціны Хорхэ Капітаніч. Стан здароўя 61-гадовай Фернандэс дэ Кіршнер у апошні час часта аказваецца ў цэнтры ўвагі аргенцінцаў. У кастрычніку мінулага года прэзідэнт перанесла аперацыю па выдаленні ўнутрычарапной гематомы, якая ўтварылася ў выніку траўмы, атрыманай пры падзенні. Тады яна правяла ў шпіталі пяць тыдняў. Яшчэ годам раней прэзідэнту Аргенціны выразалі пухліну шчытападобнай залозы.

# Катынь як помста за Фінляндыю

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**У лістападзе спаўняецца 75 гадоў з пачатку савецка-фінскай вайны. Але дасюль мала хто ведае, што французскі ўрад па дамове з палякамі ў 1940 годзе планаваў адправіць на дапамогу фінам добра падрыхтаваную брыгаду Войска Польскага.**


Чырвонаармейцы на Лініі Манергейма


Чырвонаармейцы ў атацы. Фінская кампанія


Жаўнеры Падхалянскай брыгады


Жаўнеры Падхалянскай брыгады накіроўваюцца ў Нарвік

### На берагах Сены

Пасля паразы ў вайне з Германіяй амаль 90 тысяч жаўнераў і афіцэраў польскай арміі, па дамове ад 9 верасня 1939 года, апынуліся ў Францыі. Палякі гарэлі жаданнем адпомсціць Гітлеру і Сталіну. Да таго ж Францыя знаходзілася ў стане вайны з Германіяй. Узмацненне французскай арміі за кошт саюзнага Войска Польскага было ў інтарэсах Парыжа.

Хутка было прынята рашэнне аб фарміраванні польскай дывізіі ў складзе войска Трэцяй рэспублікі. Планавалася, што дывізія будзе сфарміравана па штатах, прынятых у французскім войску. Разам з тым, устаў і палявыя суды заставаліся польскімі. Таксама французы пакідалі за сабой права прымаць палякаў у склад свайго войска. 4 студзеня 1940 года была заключана новая дамова, паводле якой польскі эміграцкі ўрад атрымліваў права ствараць паўнавартаснае войска за межамі Польшчы. Гэты дакумент даў польскаму эміграцкаму ўраду права пачаць фарміраванне на тэрыторыі Францыі рэгулярных пяхотных, авіяцыйных і марскіх частак.

Аднак яшчэ да гэтага, а менавіта ў лістападзе 1939 года, пачалося стварэнне чатырох дывізій пяхоты, танкавай брыгады, чатырох знішчальных авіядывізіёнаў і некалькіх бамбардзіровачных. Калі казаць пра пяхоту, то 1-ю дывізію грэнадзёраў пачалі фарміраваць ужо 13 лістапада са складу польскіх жаўнераў, якія прыязджалі ў Францыю з Венгрыі і Румыніі. Яе камандуючым быў прызначаны генерал Станіслаў Мачак. У другой палове красавіка 1940 года 1-ю дывізію грэнадзёраў перакінулі ў прыфрантавую зону ў Латарынгіі. На момант нападу Германіі на Францыю ў дывізіі было 16165 чалавек.

2-ю польскую пяхотную дывізію фарміраваў брыгадны генерал Браніслаў Пругар-Кетлінг. У маі 1940-га яе накіравалі ў распараджэнне 3-й французскай арміі. Камандзірам 3-й дывізіі быў палкоўнік Тадэвуш Зеляneўскі. Першапачаткова планавалася яе выкарыстоўваць для барацьбы з паветранымі дэсантамі немцаў, але пазней ад гэтай ідэі адмовіліся. 4-й пяхотнай дывізіяй Войска Польскага ў Францыі камандаваў генерал Рудольф Дрэшар, яна налічвала каля 3 тысяч жаўнераў. Дарэчы, яшчэ 30 снежня 1939 года ў Сірыі (у мястэчку Хомс) пачала фарміравацца Брыгада карпацкіх стральцоў, якой камандаваў палкоўнік Станіслаў Капаньскі.

На падставе загаду галоўнакамандуючага Войска Польскага ад 9 лютага 1940 года на тэрыторыі Францыі пачала фарміравацца элітная Брыгада падхалянскіх стральцоў. Яе камандуючым стаў палкоўнік Сігізмунд Багуш-Шышка. У складзе брыгады было тры батальёны, арганізаваныя па ўзору французскіх альпійскіх стральцоў. Рыштунак і ўзбраенне брыгады былі на той момант самымі сучаснымі. Сярод падхалян быў і ўраджэнец Брэста, былы супрацоўнік польскай Дзяржаўнай паліцыі Казімір Шостак. У верасні 1939 года яму разам з іншымі калегамі ўдалося эвакуявацца ў Румынію, а адтуль дабрацца да Францыі. Прафесійны паліцэйскі, які добра ведаў вайсковую справу, хутка апрануў на сябе мундзір падхалянскіх стралкоў. Французскае вайсковае камандаванне планавала ўключыць менавіта Падхалянскую брыгаду ў склад Французскага экспедыцыйнага корпусу, які накіроўваўся на Карэльскі перашыек, дзе ішлі кровапралітныя баі паміж фінамі і Чырвонай Арміяй.


Паліцэйскі з Брэста Казімір Шостак

### Адпомсціць Сталіну ў Фінляндыі

30 лістапада 1939 года Савецкі Саюз напаў на Фінляндыю. Савецкае войска пачало наступ на тэрыторыі ад Фінскага заліва да Баранцава мора. Аднак хутка ў Маскве даведаліся пра французскія планы арганізацыі вайсковай дапамогі фінам. Сітуацыя пагаршалася яшчэ і тым, што шматлікія ваеннапалонныя польскага войска, якія пасля верасня 1939-га апынуліся ў руках НКУС, у сваіх размовах выказваліся ў падтрымку Фінляндыі.

Так, у палітданясенні, адпраўленым у Маскву з лагера ў Казельску ў лютым 1940 года, у прыватнасці, адзначалася, што «нягледзячы на тлумачальную працу сярод ваеннапалонных, мелі месца шэраг нездаровых настрояў, якія перарасталі ў адмоўныя з'явы. Падчас правядзення гутарак палітынструктарамі (адказы на пытанні) сярод іншых пытанняў задаваліся такія, як, напрыклад: «Калі вы (г.зн. СССР) не праводзіце агрэсіўнай палітыкі, то чаму ваюеце з Фінляндыяй?», або «Чаму такая вялікая краіна так доўга ваюе з такой маленькай дзяржавай, як Фінляндыя?»

Акрамя гэтага, польскія зняволеныя рыхтавалі ўцёкі з лагераў, каб дабрацца да Фінляндыі і паквітацца з бальшавікамі за «17 верасня». Вось вытрымка з аднаго са спецпаведамленняў НКУС: «За апошні час сярод ваеннапалонных Асташкаўскага лагера адзначаны шэраг фактаў аб намеры бегчы з лагера. У мэтах ажыццяўлення намераў у вузкіх колах абмяркоўваюцца планы і спосабы ўцёкаў. Так, ваеннапалонныя, былы камендант павятовай паліцыі Мінскі Ігнат Сцяпанавіч, сярод групы афіцэраў казаў: «Ад возера Селігер, дзе мы знаходзімся, да фінляндскай і латвійскай мяжы налічваецца 300 кіламетраў. Несумненна, бегчы лепш у Фінляндыю. Яна ваюе з Савецкім Саюзам, і калі мы з'явімся на тэрыторыі Фінляндыі, тым больш як афіцэры, нас фіны не выдадуць, а наадварот, прымуць у сваё войска».

Падобныя настроі былі і сярод ваеннапалонных былога чэхаславацкага легіёну Войска Польскага. Вось што пісаў у адной з дакладных запісак у снежні 1939 года начальнік другога аддзела ўпраўлення НКУС СССР па справах ваеннапалонных лейтэнант дзяржбяспекі Іван Маклярскі: «Сярод чэхаславацкіх легіянераў былога польскага войска адзначаючца намеры прабрацца нелегальна праз літоўскую або румынскую межы ў Фінляндыю, з тым, каб уступіць у шэрагі белафінскай арміі».

З'яўленне на савецка-фінскім фронце добра ўзброенай і падрыхтаванай польскай пяхотнай брыгады магло пераламаць ход падзей не на карысць Чырвонай Арміі. Гэты факт, хутчэй за ўсё, аказаў свой уплыў на рашэнне савецкага кіраўніцтва аб ліквідацыі значнай колькасці польскіх ваеннапалонных, якія змяшчаліся на тэрыторыі СССР. Усе гэтыя афіцэры Войска Польскага, паліцэйскія, супрацоўнікі Корпусу аховы памежжа жадалі як мага хутчэй вярнуцца на фронт і змагацца за сваю Радзіму. Аднак у Маскве добра разумелі, што «антысаветызм» гэтых людзей зашкальвае. Рашэнне аб знішчэнні часткі польскіх ваеннапалонных было прынята 5 сакавіка 1940 года, а праз тыдзень скончылася кровапралітная савецка-фінская вайна.

### Эпілог

Ужо 8 мая 1940 года брыгада Падхалянскіх стралкоў была перакінутая ў Нарвегію, дзе прыняла ўдзел у бітве за Нарвік, аднак праз месяц, з-за кепскага становішча на французска-нямецкім фронце, польскую спецбрыгаду вярнулі ў Брэтань і кінулі на самы цяжкі ўчастак фронту, у выніку чаго гэтая баявая адзінка панесла значныя страты. У адным з баёў быў цяжка паранены і былы брэсцкі паліцэйскі Казімір Шостак. Яму разам з іншымі жаўнерамі ўдалося эвакуявацца на брытанскія астравы. 21 ліпеня 1940 года галоўнакамандуючы Войскам Польскім генерал Уладзіслаў Андэрс узнагародзіў брыгаду ордэнам «Віртуці Мілітары» 5-й ступені. Праз месяц брыгаду распусцілі, а з яе жаўнераў сфарміравалі батальён падхалянскіх стральцоў, які прымаў удзел у баявых дзеяннях супраць нацыстаў у складзе брытанскіх войскаў. Казімір Шостак быў неаднойчы ўзнагароджаны польскімі і англійскімі вайсковымі медалямі, а пасля вайны застаўся ў Вялікабрытаніі.

Большасць з выжыўшых у савецкім палоне вайскоўцаў Войска Польскага ўжо ў 1941 годзе ўступілі ў армію генерала Андэрса і папоўнілі шэрагі салдат антыгітлераўскай кааліцыі. Прайшоўшы ўсе жахі палону, яны сталі сведкамі злачынстваў бесчалавечнай сталінскай сістэмы.



Сяргей ЧЫГРЫН

# Памяці Дзядзькі Піліпа

**Адным з актыўных дзеячаў Таварыства беларускай школы (ТБШ) у 1930-х гадах быў Піліп Кізевіч. Ён усё сваё жыццё думаў пра лёс беларусаў, змагаўся за родную мову, за беларускія школы, за тое, каб беларусы былі шчаслівым народам.**

Нарадзіўся Піліп Кізевіч 15 лістапада 1898 года ў вёсцы Стральцы Гродзенскага павета. З маладых гадоў ён актыўна ўключыўся ў беларускі рух. У верасні 1926 года яго абралі скарбнікам павятовага камітэта Беларускай сялянска-работніцкай грамады (БСРГ) — масавай легальнай рэвалюцыйна-дэмакратычнай нацыянал-вызваленчай арганізацыі працоўных у Заходняй Беларусі ў 1925–1927 гадах. А праз год ён стаў сябрам Гродзенскай гарадской управы Таварыства беларускай школы.

12 ліпеня 1928 года ў Гродна адбыўся з’езд павятовых дэлегатаў ТБШ. Там Піліпа Кізевіча абралі скарбнікам Гродзенскага акруговага і павятовых праўленняў ТБШ. А восенню таго ж года на Гродзенскім акруговым з’ездзе ТБШ яго аднагалосна выбралі дэлегатам на агульны сход ТБШ у Вільню, дзе беларускі грамадскі актывіст стаў сябрам Галоўнай управы ТБШ, куды акрамя яго ўваходзілі Міхась Пяткевіч, Фелікс Стацкевіч, Сяргей Паўловіч, Мітрафан Кепэль, Рыгор Шырма і Мікалай Марцінчык.

Піліп Кізевіч пачаў працаваць, працаваць шчыра, натхнёна, сур’ёзна. Ён з сябрамі абышоў беларускія вёскі, мястэчкі, гарады Гродзеншчыны і Беласточчыны, дапамагаў ствараць гурткі ТБШ, падказваў, раіў, прапаноўваў. На яго імя была нават аформлена беларуская кнігарня ў Гродна, дзе любы жадаючы мог купіць сабе беларускую кнігу, часопіс, каляндар. Паліцыя пачала пільна сачыць за беларускім актывістам. І 7 ліпеня 1929 года яго арыштавалі.

Піліп Кізевіч быў даволі адукаваным чалавекам. Ён часта друкаваўся ў віленскім беларускім друку. У сваіх артыкулах любіў паразважаць пра лёс беларусаў. Асабліва шырокі водгук выклікаў ягоны артыкул «Курсы для дарослых», які быў апублікаваны ў «Летапісе ТБШ» (1933, № 3–4, с.53–54). У ёй аўтар адзначыў, што «беларускі народ дагэтуль знаходзіцца яшчэ на невысокім узроўні культурнага жыцця. Рэч зразумелая. Краіна наша, адсталая тэхнічна, эканамічна і палітычна, не можа даць высокіх культурных здабыткаў нашаму народу...»

Далей аўтар разважаў, што беларускі селянін пад саламянаю страхою жыве зімою разам з курамі, свіннямі, цялятамі, ягнятамі. «Голад таксама з’яўляецца вельмі частым госцем беззямельнага або малазямельнага, — пісаў Піліп Кізевіч. — А пры такіх непераможных абставінах, ці ж можа быць вольны прыплыў культуры?» Але, як пісаў аўтар, выхад ёсць. «Выхад не толькі ёсць, але беларускі народ на чале з ТБШ вядзе ўжо амаль па ўсёй Заходняй Беларусі, жывую культурна-асветную працу ў розных формах. Побач з дамаганнем школы ў роднай мове, сваімі ўласнымі рукамі стаў браць для сябе тое з навукі, што можа. Вёска і места загаварылі аб кніжцы, аб газеце, аб спектаклях, аб лекцыях. Гарэлка ж і тытунь адсунуты ў мінулае гісторыі. Нягледзячы на перашкоды, на той цярністы шлях жыцця і працы, народ наш на чале з ТБШ ідзе бадзёра да вызначанае мэты», — пісаў Піліп Кізевіч.

Ён заўсёды быў аптымістам і актывістам. Зімою ў 1932–1933 гадах Піліп разам з сябрамі Беластоцкай акруговай управы ТБШ наладзіў вялікі цыкл лекцый па ўсёй акрузе. Былі арганізаваныя пры гуртках ТБШ курсы для дарослых і праведзеныя заняткі з неадукаванымі і малаадукаванымі людзьмі. Напрыклад, Пяшчаніцкі гурток ТБШ арганізаваў курсы для дарослых, якія складаліся з дзвюх груп: непісьменныя і малапісьменныя. У першай групе выкладалася беларуская мова, вучыліся чытаць і пісаць, лічыць да 100. У другой групе выкладалася беларуская мова, граматыка, правапіс, арыфметыка, гісторыя і геаграфія Беларусі. Працавалі каля 25 гадзін.

Дзярнякоўскі гурток ТБШ таксама наладзіў курсы для дарослых, дзе выкладаліся беларуская мова, арыфметыка і гісторыя. Працавалі 20 гадзін.

Залуцкі гурток ТБШ арганізаваў курсы для дарослых, дзе выкладаліся беларуская мова і арыфметыка.

Вельмі актыўна праводзілі курсы для дарослых сябры Навасёльскага гуртка ТБШ. Выкладаліся беларуская мова, гісторыя і геаграфія. З дарослымі працавалі 15 чалавек з ТБШ, сярод якіх былі і тры дзяўчыны. Сябры Белявіцкага гуртка ТБШ выкладалі беларускую мову, арыфметыку, геаметрыю, гісторыю і геаграфію Беларусі. Вельмі актыўным сябрам ТБШ у гэтым гуртку быў спадар Лебядзінскі...

Гэта толькі некалькі прыкладаў таго, што рабілася сябрамі ТБШ на Беласточчыне дзеля ліквідацыі непісьменнасці сярод беларусаў. І ў гэтым была вялікая заслуга сябра Галоўнай управы ТБШ Піліпа Кізевіча.



Піліп Кізевіч

Пасля Другой сусветнай вайны Піліп Кізевіч жыў у Беластоку. У верасні 1949 года на Беласточчыне сталі арганізоўвацца школы з беларускай мовай навучання. У сувязі з гэтым Кураторыя Беластоцкай школьнай акругі (КБША) вырашыла ўзяць чалавека на пасаду візітатара школ для такога віду ўстаноў. У 1950 годзе на гэту пасаду быў прыняты ніхто іншы, як Піліп Кізевіч. Тры гады ён працаваў на ніве беларускай асветы на Беласточчыне.

З самага пачатку 1956 года ў Польшчы рабіліся першыя арганізацыйныя захады наконт заснавання Беларускага грамадска-культурнага таварыства (БГКТ). У памяшканні Ваяводскага праўлення таварыства польска-савецкай дружбы ў Беластоку быў арганізаваны аргкамітэт па стварэнні БГКТ. У яго склад увайшлі 9 чалавек, сярод якіх быў і Піліп Кізевіч. Камітэт павінен быў падрыхтаваць арганізацыйны з’езд і скамплектаваць рэдакцыйны калектыў. І камітэт паспяхова з гэтым справіўся. 26 лютага 1966 года ў Беластоку адбыўся першы з’езд БГКТ. З’езд абраў Піліпа Кізевіча намеснікам старшыні галоўнага праўлення БГКТ. А 30 сакавіка 1958 года ў Беластоку адбыўся другі з’езд БГКТ. У склад прэзідыума ГП БГКТ увайшлі Уладзімір Станкевіч — старшыня, Піліп Кізевіч — намеснік старшыні і паэт Віктар Швед — сакратар.



Піліп Кізевіч стаіць пасярэдзіне. Гродзенскі гурток ТБШ, першая палова 1930-х гадоў

Вось што пра Піліпа Кізевіча прыгадаў мне беларускі паэт Віктар Швед з Беластока: «Сустракаліся мы вельмі часта на прэзідыумах Галоўнага праўлення БГКТ. Піліп Кізевіч заўсёды быў надта актыўны, ён быў адказны ў Таварыстве за культурную працу. Высокага росту, прыстойны старэйшы чалавек, вельмі шчыры беларус, лагодны і памяркоўны, карыстаўся аграмаднай папулярнасцю не толькі ў беларускім асяроддзі. У прафесійнай працы быў ён дырэктарам Беластоцкага прадпрыемства вадаправодаў і каналізацыі. Яшчэ нядаўна я размаўляў з чалавекам, які з ім працаваў, і ён памятаў свайго дырэктара як добрага арганізатара працы, справядлівага, надта спагадлівага і дабрэйшага культурнага чалавека».

Піліп Кізевіч меў шмат сяброў. Асабліва даражыў сяброўствам з тымі, з кім працаваў разам у ТБШ. Ён перапісваўся з Рыгорам Шырмам, Міхасём Забэйдам-Суміцкім, шчыра сябраваў з Пятром Ластаўкай, які быў арганізатарам славутага прадпрыемства «Бэтэска» ў Варшаве і фінансаваў беларускія справы. У памяшканні беларускага тыднёвіка «Ніва» ў 1958 годзе адбылася сустрэча з Рыгорам Шырмам. На сустрэчу да беларускіх журналістаў і літаратараў вядомага дзеяча Заходняй Беларусі запрасіў Піліп Кізевіч. Ён расказаў аб грамадскай і палітычнай дзейнасці кампазітара ў час санацыйнай Польшчы ў 1920–1930-гадах, спыніўся на яго творчасці і дзейнасці. Тады і Рыгор Шырма прыгадваў, як са скрыпкай пад пахай з сябрамі вандраваў па Беласточчыне, ад вёскі да вёскі, збіраючы народныя песні. Пяшчанікі, Страшава, Гарадок, Тапілец — мясціны былі добра знаёмыя і Шырму, і Кізевічу.

Прыязджаў у Беласток і Міхась Забэйда-Суміцкі ў 1965 годзе. Яго з сябрамі БГКТ шчыра вітаў і Піліп Кізевіч. Гэта ён арганізоўваў у 1937 годзе гастролі спевака ў Беластоку, гэта ён з радасцю вітаў госця і ў 1965 годзе. Тады Міхась Забэйда-Суміцкі даў сем канцэртаў на Беласточчыне — у Міхалове, Бельску, Саколцы, Гайнаўцы, Мілейчыцах і два ў Беластоку. І заўсёды з ім побач быў сябра Піліп Кізевіч.

Піліпа Кізевіча на Беласточчыне вельмі любіла і паважала беларуская моладзь. Ён для яе быў аўтарытэтам і беларусам з вялікай літары. Калі не стала Піліпа Кізевіча (памёр 17 студзеня 1985 года), Сакрат Яновіч апублікаваў невялікія ўспаміны ў тыднёвіку «Ніва» (17 лютага 1985 года) пра дзядзьку Піліпа. Артыкул свой ён так і назваў: «Памяці дзядзькі Піліпа». У ім аўтар шчыра і адкрыта сказаў: «Дзядзька Піліп увасабляў нам сабою дзівосна жывую лучнасць паміж даўнім і новым, абарванай войнамі, акупацыямі і чым хочаш. Мы, маладыя, глядзелі на яго як на нейкага такога, хто па-апостальску зведаў тыя далёкія дарогі, па якіх усё ішла да нас беларускасць, гэты наш свой гонар і ў нікога не пазычаная наша свая воля жыць далей на ўласны рахунак ды на ўласную адказнасць. Бывала і так, што бег я ў кут, каб выплакацца там Гаруновымі слязьмі ад шчасця, што я — беларус, беларус, беларус!!! Ён чуйна прыкмячаў гэтае шаленства ў нас...»

# Крэсла — больш, чым кропка апоры

Вольга ХВОІН

**Фантазёрам і прагматыкам раю правесці гадзінку вольнага часу на выставе «Пастулат–2014», якая адчынілася ў галерэі «Інстытут культуры». Здавалася б, такі просты і зразумелы аб'ект штодзённага побыту — крэсла. Але на выставе ёсць чаму здзівіццаі ёсць на што паглядзець.**



Старшыня саюза дызайнераў і ідэйны аўтар «Пастулата» Дзмітрый Сурскі









Ці любіце вы крэсла гэтак, як любяць яго дызайнеры? Ці верыце ў тое, што крэсла не толькі ўтульна падтрымлівае вашу пятую кропку, але і ёсць стымулам для мазгоў? Стэрэатыпнае ўспрыманне такога, здаецца, звычайнага прадмета інтэр'еру, як крэсла, раствараецца ўжо з першых крокаў па выставе. Аказваецца, крэсла — гэта не толькі дызайнерскі аб'ект, але і суб'ект мастацтва, які абуджае незвычайныя аналогіі і алегорыі, правакуе на разбурэнне інерцыі побыту і спакушае на эксперыменты.

Ад 31 кастрычніка ў галерэі «Універсітэт культуры» працуе выставачны праект «Пастулат–2014», прысвечаны крэслу як матэрыяльнаму аб'екту і мастацкаму вобразу ў розных жанрах выяўленчага мастацтва.

Сёлета на выставе можна ўбачыць 99 работ як вядомых беларускіх творцаў, так і маладых дызайнераў, студэнтаў. Удзельнічаюць 57 аўтараў.

Дарэчы, упершыню праект «Пастулат» быў прадстаўлены публіцы ў 2012 годзе, калі на некалькіх выставачных пляцоўках Мінска адбыліся выставы, у якіх прынялі ўдзел 110 мастакоў. Было прадэманстравана каля 120 прац. Па словах арганізатараў, выстава мела поспех як у час сваёй працы (яе наведалі 3 720 чалавек), так і пасля. Лепшыя працы дэманстравалі ў Вільні, Таліне, Варшаве, у Мінску на выставе «Avant-gARTe. Ад квадрата да аб'екта», у Гомелі ў галерэі Вашчанкі. Віртуальны каталог выставы «Пастулат–2012» года можна паглядзець на http://postoolat.unid.by.

Дырэктарка Мастацкай галерэі «Універсітэт культуры» Наталля Барсукова мяркуе, што наведвальнікаў прываблівае слова «дызайн», а аб'екты выставы маюць не толькі эстэтычнае прызначэнне:

— Думаю, людзям цікава прыйсці паглядзець і ўзяць ідэю. Усё зразумела, даступна і мае ўтылітарны характар.

Паводле яе слоў, нават мастакі-ўдзельнікі захапляюцца працамі сваіх калег ды спрабуюць атрымаць ва ўласнасць упадабаны аб'ект.

Мастацтвазнаўца Ларыса Фінкельштэйн адзначае, што гарантыя поспеху любой выставы — у першапачатковай ідэі.

«Калі заяўленая такая тэма, то складана зрабіць кепска ці не зрабіць, — ацэньвае «Пастулат» эксперт. — Гэтая дызайнерская выстава сёлета адметная тым, што тут мала дызайну побытавага, але многа мастацтва і пластычнага гумару. Вялікая заслуга гэтай выставы ў тым, што сабраныя мастакі, графікі, скульптары, дызайнеры. Асабіста мяне ўразілі Генадзь Катлінскі, Дзмітрый Сурскі, Леанід Рыжкоўскі».

Старшыня саюза дызайнераў і ідэйны аўтар «Пастулата» Дзмітрый Сурскі адзначае, што першая выстава была больш напоўненай, бо яна акумулявала працы, зробленыя за многа гадоў. Сёлета экспанаты рабіліся ўжо адмыслова для выставы.

«Чаму менавіта крэсла? Ёсць такое выслоўе: кожны дызайнер і архітэктар мусіць спраектаваць хаця б адно крэсла. І праўда, у дызайнераў у Беларускай акадэміі мастацтваў першае заданне — зрабіць праект крэсла», — патлумачыў Сурскі, адкуль растуць ножкі ў вялікага арт-праекта.

Па словах Сурскага, у нашых суайчыннікаў цяпер ёсць цікаўнасць да дызайнерскай думкі, цікавага афармлення інтэр'ераў:

— Будаўнічы бум падагравае цікаўнасць да дызайну інтэр'еру. Ёсць попыт, ёсць паслугі рознага кошту. Цяпер мы маем магчымасць мець ва ўласнасці калекцыйныя рэчы, усё можна замовіць, набыць.

Дарэчы, Дзмітрый Сурскі станоўча ставіцца да прадукцыі мас-маркета IKEA, якую адны зацята лаюць, а другія не менш упарта хваляць.

«Там многа добрых ідэй. Можна набыць як дарагія, так і танныя рэчы. Насамрэч, дызайн пакліканы рабіць нашае жыццё больш танным. Напрыклад, мне спадабалася ідэя з круглым люстэркам, рама для яго была зробленая з веласіпеднага кола», — гаворыць дызайнер.

І прызнаецца, што свой хатні інтэр'ер рабіў уласнаручна ў часы, «калі апроч шахматных і чарцёжных дошак мала што можна было знайсці ў продажы. Вось з гэтага і зрабіў сабе амаль усю мэблю».

Арганізатарамі выставачнага праекта «Пастулат–2014» выступаюць «Беларускі саюз дызайнераў» і Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў.

Месца правядзення: галерэя «Універсітэт культуры», Кастрычніцкая плошча, 1, Палац Рэспублікі. Выстава працуе да 22 лістапада.

Уваход вольны.

# Грамадства непакоіць страта роднай мовы

Марат ГАРАВЫ

**Што мяне прыемна ўразіла падчас правядзення XII з'езду Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны?**

Па-першае, нармальны фінансавы стан ТБМ, дзякуючы, у першую чаргу, унёскам фундатараў і ахвярадаўцаў з розных куткоў Беларусі і замежжа. Сярод іх — Андрэй Міцкевіч, Павел Бераговіч з Таліна (Эстонія), сям'я Прыгожыных з Масквы (Расія), Фелікс Шкірманкоў з Слаўгарада Магілёўскай вобласці і Алег Лягушаў са станцыі Ясень Асіповіцкага раёна Магілёўшчыны.

Па-другое, шырокае выкарыстанне інфармацыйных тэхналогій у працы. Пад кіраўніцтвам намесніка старшыні ТБМ Дзяніса Тушынскага рыхтуецца падрабязны дакумент з комплексным аналізам моўнай сітуацыі і стану моўных правоў у Беларусі. Крыніцамі інфармацыі будуць запыты ў органы ўлады і паведамленні з месцаў сяброў ТБМ і іншых людзей. Плануецца не толькі зрабіць шматаспектны зрэз моўнай сітуацыі па ўсіх рэгіёнах краіны і асноўных сферах грамадскага жыцця, аднак і адлюстраваць вынікі гэтага даследавання ў маштабнай справаздачы, а таксама ў інтэрактыўнай версіі «Атласу моваў свету, якім пагражае знікненне» ЮНЭСКА.

Па-трэцяе, заклапочанасць ТБМ станам роднай мовы нарэшце пачала даходзіць да беларускага грамадства. Па выніках ліпеньскага апытання, праведзенага супрацоўнікамі Інстытута сацыялогіі Нацыянальнай акадэміі навук Рэспублікі Беларусь, сярод найбольш вострых пагрозаў для краіны на бліжэйшую чвэрць стагоддзя грамадзяне Беларусі назвалі страту роднай мовы разам са змяншэннем колькасці насельніцтва з-за нізкай нараджальнасці і высокай смертнасці, з п'янствам і алкагалізмам, наплывам мігрантаў, экалагічнымі праблемамі і зніжэннем узроўню жыцця.

Астатняе на з'ездзе было традыцыйным: віншаванні, справаздачы, выбары новага кіраўніка, якім у чарговы раз стаў выбітны беларускі гісторык і грамадска-палітычны дзеяч Алег Трусаў, і заявы. На гэты раз дэлегаты з'езду падтрымалі зварот у Канстытуцыйны суд аб узбуджэнні вытворчасці па справе аб выдаленні ў нарматыўных прававых актах прабелаў, выключэнні ў іх калізій і прававой нявызначанасці, а таксама зварот ва ўрад аб вяртанні беларускай мовы ў вышэйшую адукацыю Беларусі.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.

Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81 novychas@gmail.com; novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 1488

Падпісана да друку 6. 11.2014. 8.00. Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.